PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 16 (1927) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 18 КРАСАВІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## Хрыстос Уваскрос!

*Спакойнага і радаснага Велікоднага Святкавання ўсім чытачам жадае рэдакцыя „Нівы"*



## ВЯЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

ЯГО ВЫСОКАПРААСВЯШЧЭНСТВА, ВЫСОКАПРААСВЯШЧЭННЕЙШАГА САВЫ АРХІЕПІСКАПА БЕЛАСТОЦКАГА І ГДАНЬСКАГА

ГЛЫБОКАШАНОЎНАМУ ДУХАВЕНСТВУ, БОГАЛЮБІМАМУ МАНАСТВУ, НАБОЖНЫМ ВЕРУЮЧЫМ ЧАДАМ БЕЛАСТОЦКА-ГДАНЬСКАЙ ЕПАРХІІ

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

На пачатку св. Чатырыдзесятніцы Святая Царква заклікала сваіх чадаў: „Час посту пачнем у яснасці, на подзвігі духовыя сябе падрыхтоўваючы, ачысцім душу, ачысцім цела, посцімся таксама ў ежы, як і ад усялякіх страсцяў, дабрадзейнымі ўчынкамі асалоджваймa дух: у іх удасканальваймася любоўю і ўдастоімся ўсе бачыць прасвятыя пакуты Хрыста Бога і Святую Пасху, духоўна радуючыся" (стыхіра Вячэрні Нядзелі Прабачэння).

Гэтымі словамі Святая Царква Маці наша ўвяла нас у надзвычайныя дні св. Вялікага Посту, які быў падрыхтовачным часам да Святое Пасхі, калі адзначаем пераход ад смерці да жыцця, як кажа апостал: „Смерць, дзе тваё джала? Пекла, дзе твая перамога? Джала ж смерці — гэта грэх, а сіла граху — гэта закон. Богу ж падзяка, што даў нам перамогу праз Госпада нашага Ісуса Хрыста!" (I Кар. 15, 54-57).

Сёння, як ніколі ў іншы час, мы аб'яднаны з Уваскросшым Госпадам Ісусам Хрыстом, нашым Збавіцелем. Сёння ў таямніцы Яго Уваскрэсення з'яднаны ўсе веруючыя ў Яго, кожны з нас. Асабліва сёння стаюцца зразумелымі Яго словы: „усё ствараю новае" (Адкр. 5,7) і словы апостала Паўла: „Хто ў Хрысце — той новае стварэнне" (II Кар. 5,17).

Сапраўды, сёння мы асвечаны непахіснай праўдай паўстання з памерлых Хрыста. Блізкасць Бога ўчыняе нас дастойнымі і багатымі духам, і адкрывае перад нашым духовым зрокам незвычайныя віды і вобразы. Таму разам з апосталам Іаанам можам сказаць: „Пра тое, што мы чулі, што бачылі сваімі вачыма, што разглядалі і да чаго датыкаліся рукі нашыя... абвяшчаем вам" (I I. 1,1-2).

Уваскросшы Госпадзь — гэта Сын Божы, спрадвечнае Слова, і „усё праз Яго сталася, і без Яго нічога не было з таго, што збылося" (I. 1,3). Быўшы Сынам Божым, прыняў Ён цела чалавечае ад Святога Духа і Святое Дзевы Марыі. Стаў адным з нас, апрача граху. Сусвету пакінуў Сваё Евангелле, як адвечную Праўду, узяў на Сябе грахі свету, быў засуджаны, пакутаваў

☞ Працяг на стар. 2

З народнай абраднасці

## ВАЛАЧОБНІКІ ВАЛАЧЫЛІСЯ...

Вялікдзень, альбо, як яго яшчэ называюць, Вялічка, — гэта значыць вялікі, доўгі дзень. Вядома, што славянскія плямёны ў перыяд язычаства і нават з прыняццем хрысціянства наладжвалі святкаванні ў гонар жыватворнага і цеплатворнага сонца, Дажбога, святкаванні, вынесеныя славянамі, відаць, са сваёй далёкай радзімы, краіны вечнага сонца. Святкаванні гэтыя адбываліся, па сведчанні летапісца, прыблізна ў час веснавога раўнадзенства. З наступленнем Вялікадня людзі развітваюцца з зімой і сустракаюць вясну. Гэтым святам пачынаецца для земляроба многа палявых работ: трэба ўзараць поле пад ярывя, трэба яго засеяць.

Яшчэ за тыдзень да Вялікадня пачынаецца падрыхтоўка да свята. Ужо на Вербніцу заўважаецца пэўнае ажыўленне з аказіі блізкасці свята. Людзі пачынаюць выганяць у поле жывёлу, пасцёбваючы яе свянцонай вярбой:

*Вярба б'е, не я б'ю —*
*За тыдзень Вялікдзень —*
*Вярбовым дубцом, ды самым канцом,*
*Уставай рана бydла гнаць,*
*Не забудзься лусты ўзяць.*

Пры вымаўленні тых слоў сцябаюць адзін другога вярбой.

Увесь перадвялікодны тыдзень праходзіць у клопатах па частцы з-за падрыхтоўкі да свята. І гэта не дзіўна. Вялікдзень лічыўся самым вялікім святам, вышэй за Каляды. На Вялікдзень нават жанчыне (!) дазвалялася выпіць крыху гарэлкі. Мыццё хаты пачыналі з серады. Усё выносілася на двор. Сеннікі набіваліся свежай саломай. Падлогу мылі дабяла. У „чысты" чацвер памытую падлогу засцілалі саломай. А маладыя дзяўчаты звычайна ў гэты дзень у-ставалі вельмі рана, так за гадзіну ці за дзве да ўсходу сонца, каб памыцца халоднай крынічнай вадой. Гэта для таго, каб быць чыстай улетку і каб „загара" не прыставала. У „чыстую" пятніцу выконваўся вельмі цікавы звычай. Калі ёсць у сям'і хлопчык 8-10 гадоў, то ён раніцай, калі ўсе яшчэ спяць, зусім голы вымятае з хаты смецце і зносіць яго ў хлеў, дзе знаходзіцца жывёла. Людзі расказваюць, што гэтае рабілася для таго, каб увесь год у хаце не было блох.

У Вялікую суботу ўся падрыхтоўка да свята павінна быць закончана: хата ўнутры і знадворку ачышчана, велікодная ежа згатавана. Што тычыцца велікоднай ежы, то ва ўсіх свянцонае бывае аднолькавае: яйкі, пафарбаваныя шалупіннем цыбулі, сыр, масла, пірагі, вяндліна, кілбасы, парасё, смажаная цяляціна. Велікодная ежа складваецца ў спецыяльны кораб, сплецены з саломы, у той кораб, з якога сеюць, чаму і называецца ён „сявенька", а калі ён лубяны, то „лубянка". У суботу свяшчэннік па раней аб'яўленым маршруце аб'язджае вёскі свайго прыхода і асвячае ежу. Пры гэтым ён надзяляецца ад кожнай сям'і валачобным — пафарбаванымі яйкамі. У гадзін восем ён вяртаецца дадому з прыхода, і прыкладна ў гэты час пачынаецца ў царкве чытанне Апостальскіх Дзеянняў... Пасля заканчэння службы свяшчэннік выходзіць на могілкі і, праходзячы каля рада расстаўленых сявенек, асвячае ежу. Пасля гэтага ўсе збіраюцца дадому. Кожны стараецца трапіць у сваю вёску першым таму, што ў таго будзе лепшы ўраджай і раней закончыць ён палявыя работы.

Вельмі важную ролю ва ўяўленнях людзей іграе велікоднае яйка. Яйкі ў дахрысціянскі перыяд сімвалізавалі абуджэнне прыроды, яе пладавітасць і жыццёвасць. Больш таго — яйка гэта мадэль сусвету, зараджэнне жыцця ў космасе. У нас найбольш пашырана самае простае фарбаванне яек у чырвоны колер. Здавалася б гэта найменш каштоўнае ўпрыгожанне яйка, але на самой справе гэта найстаражытнейшы спосаб магічнага фарбавання.

У першы дзень Вялікадня маці гладзіць чырвоным яйкам па твары ўсіх дзяцей, каб яны былі заўсёды румянымі, чырвонашчокімі, значыць — здаровымі.

Яйка фарбавалі таксама ў растворы кары дрэў, адвары траў. Характар малюнка, у якім пераважалі старажытныя сімвалічныя матывы, залежаў ад спосабу нанясення васковага ўзору. Накапванне воску з дапамогай шпількі давала элементы ў выглядзе кропелек, з якіх кампанаваліся разеткі, кветкі, ланцужкі, паяскі, стылізаваныя жывёльныя і раслінныя малюнкі. Яйка таксама дзялілі на 2, 4, 8 палёў. Яйка, атрыманае ад каго-небудзь першым, не псуецца на працягу ўсяго года і мае цудадзейную сілу.

Вось і надышоў першы дзень Вялікадня... Людзі выходзяць глядзець на „ігру" сонца. Дарослыя мужчыны падымаюцца на званіцы, а жанчыны і дзеці назіраюць на ўзгорках і стрэхах хат. З'яўленне сонца на ясным небе і яго „ігранне" вяшчае добрае лета, шчаслівыя вяселлі і ўраджай. Бабулі пры ўзыходзе сонца мыюцца з пасудзіны, у якую кладзецца золата,

☞ Працяг на стар. 6

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Нямецкія акупанты і потым бальшавікі не прызналі БНР. У іх былі свае інтарэсы на Беларусі. З адыходам немцаў, як вядома, у канцы 1918 года, (і) прыходам бальшавікоў, урад БНР вымушаны быў эмігр(ыр)аваць. Бальшавікі не збіраліся дазваляць утварыцца якой бы там не было беларускай дзяржаве. Аднак з'яўленне Беларускай Народнай Рэспублікі вымусіла іх памяняць планы і зрабіць палітычны манеўр — пайсці на стварэнне „савецкай контрдзяржавы” — Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь.*

*(Голас Радзімы, н-р 13)*

Ну і ну! Куды яны, чорт іх ведае, гнуць!? Толькі глядзі, а неўзабаве дапішуцца да таго, што бальшавікі — гэта палітычныя махляры і бандыты. Ажно страшна робіцца.

* * *

З прыватных аб'яваў:

*С. С. Шушкевіча страна сделала учёным, а он её предал! Позор, презрение и ненависть к таким оборотням!*

*Партия должна спасти нас и Родину! Надо помочь народу! Я считаю, надо обязательно объявить референдум о возвращении Союза, нашей символики, гимна, все бы люди проголосовали за это, и деньги бы выслали на проведение референдуму...*

*З. Федоркевич из Быхова (Грамада, свабодная беларуская газета, н-р 1, передрук з „Мы и время”)*

Да, товарищ Федоркевич! Вы правы! Это позор! Но стоит ли объявлять референдум по такой пустяковине? Не легче взять и пострелять этих всех оборотней, так называемых *беларусаў?* Стране это обойдется намного дешевле. (Это мнение самой радикальной — большевистской — части нашей редакции. С большевистским приветом — мы! Долой белорусских сатрапов!)

* * *

*Не трэба баяцца чалавека з КПБ. „Чырвонага рэваншу” на Беларусі не будзе.*

*(Звязда, н-р 48)*

Спадарове-таварышы! Справа не ў колерах. Яна — у тым, хто трымае пісталет. Потым усе колеры і так зліваюцца ў чорную непразрыстасць.

* * *

*U dzisiejszych młodzieniaszków widzę wiele irytującej rozlazłości i ciamajdztwa. A ich krętactwa są bez wyrazu. Kiedy na przykład ja robiłem balona z rodziców na konto pieniążków, to nigdy po to, żeby mieć za co porzygać się czy zaszpanować czekoladkami przed dzierlatką. Te wycyganiane sumki nie lądowały na szynkwasie w peryferyjnej mordowni, a już absolutnie wykluczone były składkowe seanse u przystępnej dziwki.*

*(Czasopis, kwiecień 1993)*

Хто ж гэта быў такі прыстойны і богабаязны ў непрыстойныя і бязбожныя часы ўтравелага камунізму? Ні больш, ні менш — Сакрат Яновіч, які ў „Часопісе” працягвае сваю аповесць пад назовам „Dolina pełna lasu”.

Trelum-morelum, спадару Сакраце! Загаворвайце зубы тым, хто вас не ведае. А наконт dzisiejszych młodzieniaszków: Primo: ім ужо даўно за трыццаць; Secundo: мы п'ем, але не за бацькоўскія, толькі за свае, сумленна запрацаваныя на беларускай ніве (тобок, у „Ніве”); Tertio: дзе вы сёння знойдзеце przystępną dziwkę? — нават саветкі з СНД (а магчыма, што і са СНІДам) патрабуюць мільёна за нумар. Застаецца спадзявацца на патрыёткі, якія даюць задарма.

Коратка кажучы: у творчасці Яновіча Сакрата з Крынак назіраецца важкі пералом: пераход з пазіцый сацыялістычнага рэалізму на забагнёныя пазіцыі асексуальнага маралізатарства з памкненнямі да рэфлексійнага ананізму.

*Сіао! Праз тыдзень у тым самым месцы.*

# ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

на крыжы і на трэці дзень уваскрос з памерлых. Праз усё гэта Ён стаўся Сынам Чалавечым, Збавіцелем роду чалавечага і Заснавальнікам Святое Царквы, пра якую сказаў, што: „брамы пякельныя не адолеюць яе” (Мцв. 16,18).

Такім чынам сталі мы Яго паслядоўнікамі і памочнікамі ў справе збаўлення свету. Мы заўсёды з Ім, а Ён з намі. Мы Яго, а Ён наш. І сёння, пасля святога Вялікага Посту цешымся Яго ўваскрослай славай, спяваючы: „Прыходзьце, піва п'ём новае, не з каменя няплоднага цудоўным чынам выходзячае, але нятлення крыніца з грабніцы, акропленай Хрыстом, ёю ўмацоўваемся”.

У святле зместу гэтых слоў можам зразумець сцвярджэнне Збавіцеля: „... не хлебам адным будзе жыць чалавек, а ўсякім словам, якое выходзіць з вуснаў Божых” (Мцв. 4,4).

Уваскросшы Хрыстос заўсёды, але асабліва ў наш адказны час патрабуе ад нас:

— каб мы верай, малітвай і добрымі ўчынкамі вызнавалі сваю веру праваслаўную, абараняючы яе ад драпежных ваўкоў;

— каб мы ў святле веры ў Хрыстовае Уваскрэсенне ўмацоўвалі сваю прыналежнасць да Яго Святой, Адзінай, Апостальскай, Праваслаўнай Саборнай Царквы, таму што цуд Уваскрэсення змог вярнуць да Яго ўцякаючых з Галгофы вучняў;

— каб мы сваю веру замацоўвалі ўчынкамі ў асабістым жыцці, памятаючы пра словы Збавіцеля: „Не кожны, хто кажа Мне: „Госпадзе! Госпадзе!” увойдзе ў Царства Нябеснае, а той, хто выконвае волю Айца Майго, Які ёсць у нябёсах” (Мцв. 7,21);

— каб нас не спакушала супраціўленне акружаючага нас свету, думкі і ўчынкі іншых, бо без веры ў Бога Стваральніка сусвету немагчыма зразумець акружаючы нас цудоўны свет;

— каб мы ўсёй сваёй сутнасцю належалі да Святой Царквы Праваслаўнай, цанілі ўсё сваё роднае, сваіх духовых айцоў, свае святыні як запаветы продкаў і захавалі для будучага пакалення дух свайго народу;

— каб наша сямейнае жыццё праходзіла згодна з навукай роднай Праваслаўнай Царквы;

— каб наша зямное жыццё праходзіла з карысцю для вечнасці і адпаведна з дадзенымі нам Богам здольнасцямі;

— каб мы заўсёды навокал сябе захоўвалі і прапаведавалі мір і любоў так, каб любоў Хрыстова панавала паміж людзьмі. Яны — любоў і еднасць — вельмі неабходны сёння Святой Царкве.

Даручаючы ўсім нам зварот Уваскросшага Госпада, запаланёныя радасцю ад Светлага Хрыстовага Уваскрэсення, Усіх Вас, Дарагія Пастыры, Інакі, Браты і Сёстры, Моладзь і Дзеткі, сардэчна віншую са Святам Святаў словамі св. Іаана Залатавуснага: „Уваскрос Хрыстос і палі дэманы. Уваскрос Хрыстос і цешацца ангелы. Уваскрос Хрыстос і жыве жыццё. Таму слава і панаванне, на векі вякоў”.

**Хрыстос Уваскрос — Сапраўды Уваскрос!**

**Пакорлівы**

**† САВА**

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі**

**Беласток — Гданьск**
**Пасха Хрыстова 1993 г.**

*<u>У АБАРОНУ СМЕХУ</u>*

## ЦІ Ў БЕЛАРУСІ МОЖНА СМЯЯЦЦА 1 КРАСАВІКА?!

Кожны нармальны чалавек скажа, што калі нехта не ашукае яго 1 красавіка — тады год будзе няўдачны. Аднак, калі глянем на цэлую беларускую рэальнасць, усё гэта „бярэ ў лоб!” Ужо ўсе прывыклі, што газеты караюць нават... тады, калі пішуць праўду, якая аднак нявыгадная пануючай наменклатуры. Ніхто не рэагаваў, калі 25 сакавіка ў Менску паявіліся лістоўкі, у якіх нацыянальныя беларускія сімвалы параўноўваюцца да фашысцкіх — хаця іх абарона запісана ў канстытуцыі. Але, калі адзіная хіба ў Беларусі незалежная радыёстанцыя Беларуская маладзёжная (БМ) 1 красавіка, зрэшты папярэджваючы, што гэта дзень смеху, паспрабавала пажартаваць — сказалі ім: „Мы вам пакажам, хто будзе смяяцца апошнім!” Для паяснення, радыёстанцыя БМ у наменклатуршчыкаў ужо даўно, як гэта гаворыцца, пройграна. А ў чым яе абвінавачваюць? Жана Літвіна як яе старшыня з цэлым калектывам — мэтай свайго жыцця палічылі зрабіць БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ, якое было б лепшым за ўсе гэтыя „кацюшы”, што ім і ўдалося. Усе перадачы на беларускай мове характарызуюцца высокім культурным і інтэлектуальным узроўнем, таму колькасць слухачоў цэлы час павялічваецца. БМ дала час у эфіры апазіцыйным дзеячам. З гэтай прычыны галоўны рэдактар штораз часцей прымушана была тлумачыцца перад уладамі. 25 сакавіка БМ супольна з беларускай рэдакцыяй Польскага радыё наладзіла ў першых праграмах РАДЫЁ-МОСТ. Тэлефоны ад слухачоў не пераставалі званіць. Наменклатура дайшла да вываду, што прыйшоў час закрыць гэту рэдакцыю. 1 красавіка, каб даць людзям крыху пасмяяцца, журналісты расказалі два анекдоты. Першы, што недалёка Менска адкрылі агромную колькасць дагістарычных скарбаў — археолагі самі не даюць рады іх адкапаць, і калі хто зможа, няхай дапамагае. Палову таго, што адкапаеш, можна забраць сабе. На працягу 15 хвілін раздалося 47 званкоў у рэдакцыю — слухачы пыталі пра падрабязнасці. Другі анекдот распачаўся трошку ад рэальнасці, таму што па-праўдзіваму раніцай сабраўся беларускі ўрад, які — як жартавала БМ — зрабіў сваё пасяджэнне тайным. Вядучая праграмы эфір у БМ Алена Радкевіч, карыстаючыся нагодай, што можна зрабіць добры анекдот, пусціла ў эфір (раней папярэджваючы, што сёння дзень смеху) інфармацыю, што праз 40 хвілін будзе надзвычайнае камюніке з пасяджэння ўрада. Камунікат паўтарылі некалькі разоў. І тут гісторыя затрымоўваецца. Усе смяяліся апрача кіруючай наменклатуры. „З урада насміхаюцца! — закрыць БМ!” — рашуча запатрабавана. Галоўную рэдактар Жану Літвіну часова адхілілі ад займаемай пасады, а вядучую праграму Алену Радкевіч адсунулі ад прамога эфіру...

Няхай цяпер нехта скажа, што прынамсі 1 красавіка ў Беларусі можна смяяцца! Кіруючыя дзяржавай дзядзькі не ведаюць жартаў! Тады, калі яны выхоўваліся, нікому нават у галаву не прыйшло жартаваць з урада. Тыя, хто расказваў анекдоты, найчасцей не станавіліся акцёрамі ў кабарэ, а толькі пенсіянерамі салавецкіх курортаў. Маладая Беларусь хоча жыць, жартаваць і смяяцца. Кіруючыя дзяржавай баяцца аднак, што смех разбурыць бетонныя сцены і пакажа ўсю існуючую рэчаіснасць. Белая Русь, калі ты будзеш сабою?

**УЛАДЗІМІР ПАЦ**

## ПАПРАЎКА

У „Ніве” н-р 14 (4 красавіка 1993) у выніку тэхнічнага недагляду артыкул **„Хто папмаруе, той і паедзе”** аказаўся без подпісу. Аўтарам артыкула з'яўляецца **АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**. Чытачоў і ўсіх зацікаўленых перапрашаем.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- ➢ М. Ваўранюк пра скандал з адкрыццём кантрольна-прапускнога пункта ў Баброўніках.
- ➢ А. Максімюк даведаўся, што і калі будуць прыватызаваць.
- ➢ П. Байко гаварыў з Янам Крукам пра царскія часы.
- ➢ Я. Целушэцкі піша як дамовіцца з чужаземцамі пры дапамозе жэстаў.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КАМУНІСТЫ Ў ПАРЛАМЕНЦЕ: КАПІТАЛІЗМ НЕ ПРОЙДЗЕ

Днямі на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадстаўнік рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы дэпутат Міхаіл Качан абвясціў аб стварэнні парламенцкай Партыі камуністаў Беларусі. Нашчадкі лепшых традыцый камуністычнага руху прапануюць беларускаму народу ў якасці вызвалення ад нацыянальнай катастрофы шлях калектывізму, дысцыпліны і ўзаемадапамогі, што супадае з сацыяльнымі пераўтварэннямі, якія вядуць да грамадства без класаў і эксплуатацыі. Акрамя моўных тлумачэнняў наконт авантурызму, навязанага курсам на рэстаўрацыю капіталізму ад КПБ варта чакаць дзейсных спроб не дапусціць прыватызацыі дзяржпрадпрыемстваў і зямлі.

### ХТО ТАМ РУШЫЦЬ ЗЛЕВА?

Адзіным фронтам пад назвай Народны рух Беларусі на парламенцкіх выбарах будзе выступаць блок 18 левых партый і грамадскіх рухаў Беларусі камуністычнага кірунку. На сцягу яго — дасягненне выхаду з крызісу без сацыяльнай канфрантацыі і напружанасці, недапушчэнне нацыянальных канфліктаў на Беларусі, цесныя эканамічныя сувязі з краінамі былога СССР. Дарэчы, адзінай арганізацыяй нацыянальнай меншасці, што далучылася да пагаднення, з'яўляецца „Полісьсе”.

### НАРОД ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ СВАІХ ГЕРОЯЎ

25 сакавіка на Цэнтральнай плошчы горада Маладзечна адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка героям, якія аддалі жыццё за незалежнасць Беларусі.

Падзея гэта была прымеркавана да 75-х угодкаў стварэння БНР. Арганізатары ўрачыстасці — дэмакратычныя партыі і рухі горада, а таксама Маладзечанскі гарадскі савет. Адметна, што помнік змагарам за незалежнасць Беларусі будзе стаяць побач з гіпсавай выявай У. Леніна.

Мемарыяльнай дошцы на будынку па вуліцы Валадарскага, 9, у Менску, дзе ў 1918 годзе была прынята III Устаўная грамата БНР, пашанцавала менш. 23 сакавіка раптам стала вядома, што Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, куды звярнуўся за дазволам Аргкамітэт, не правамоцны прымаць падобныя рашэнні і звяртацца трэба было ў Савет Міністраў.

### НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ГРОШЫ

У Менск з Германіі прыбыла першая партыя новых беларускіх грошай, якія валодаюць 20 ступенямі абароны. Заказ на выраб „чарговай” беларускай валюты быў накіраваны ў Германію не ад Нацыянальнага банка, а ад Міністэрства фінансаў рэспублікі. Паколькі адначасова павялічваецца і прыток расейскіх грошай (днямі на Беларусь было завезена 120 мільярдаў грашовых адзінак ад былога „старэйшага” брата), спадзявацца на хуткатэрміновы ўвод у абарачэнне ўласных грошай пакуль рана. Ва ўсялякім выпадку, да сярэдзіны лета давядзецца пачакаць.

**М. ДЗЯБЁЛА**




Жыхарам Беласточчыны
й усім чытачам „Нівы”
з нагоды
Велікодных Сьвятаў
шчасьця й згоды ў сям’і,
памыснасьці й посьпехаў
у грамадзкім і прыватным жыцьці,
добрага здароўя
жадаюць

кіраўнікі й працаўнікі
прадпрыемства АМЭГА
зь Бельска-Падляшскага.
Хрыстос уваскрос!

# ДУРНІ, ОЙ, ДУРНІ!

Актуальна наіўны свет дрыжыць ад навінаў, што ў Расіі вяртаюцца камуністы... Адны слухаюць таго з трывогаю, іншыя з надзеяй. І тыя і тыя чамусьці не заўважаюць, што камунякі там увесь час пры ўладзе. І сварня ў Крамлі не за прынцыпы, а за мяккія крэслы. Даволі нагадаць, што прэзідэнт Ельцын быў жа ў сціслым дзесятку асобаў, якія кіравалі Савецкай імперыяй. Праўда, аказаўся ён моцна інтэлігентным ды спрытным, раней за ўсіх калегаў прадчуўшы і зразумеўшы, што эра камунізму канчаецца, трэба перафарбоўвацца.

На вялікае дзіва для мяне, у дурнях знайшоўся Гарбачоў! Апошні цвік у палітычную труну яму ўбілі тыя маскоўскія путчысты са жніўня 1991 года. Следчы разбор іх учынкаў паказаў, што гэты нібы путч адбыўся ў плане покернай спробы Гарбачова ўтрымаць сябе і цэлую сістэму. Вёў ён інтрыгу па-майстэрску, так гуляючы ў свой козыр, каб апошнюю ўзятку, з адных тузоў ужо, пацягнуць да сябе. Успомніце: чаго путчысты адразу паляцелі самалётам у Фарос, крымскую рэзідэнцыю прэзідэнта СССР?!

У працяг сказанага давайце весела задумаемся над рытмічнасцю, якая ажно кідаецца ў вочы, а менавіта: як толькі пачынае Захад скупіцца на дапамогу для перафарбаванае расійскай наменклатуры, маскоўскія вуліцы і пляцы ўмомант запаўняюцца дэманстрантамі з чырвонымі сцягамі ды з партрэтамі Сталіна. Па-свойму шкада мне гэтых старых дурняў, якія і не падазраюць, што цынічна выкарыстоўваюць іх палітычную адчайнасць, каб прыпалохаць Вашынгтон. Маніпуляванне непапраўнымі бальшавікамі дае патрэбныя Ельцыну вынікі: Амерыка дзіка баіцца набліжэння рукі ашалелага ад няўдач бальшавіка да чорнай скрынкі з савецкай нуклеарнай кнопкаю! Таму кашалёк з доларамі дапамогі расшпільваецца досыць шырока.

Канфліктаванне постчырвонага парламента на чале з чачэнцам Хасбулатавым - гэта ўсяго толькі скандал, учынены свайму Ельцыну за справядлівейшы падзел тых жа мяккіх крэслаў. Ніякая гэта барацьба за змену палітыкі, бо палітыка парламента і палітыка Ельцына нічым важным не адрозніваюцца. Кажу: смешна глядзець на тых, хто ўсё яшчэ не перастаў верыць у камунізм - мацёрыя члены былога Палітбюро з арэапага Ельцына парабілі з іх, тых вернікаў, звяглівых сабачукоў, якіх правакуюць на брэх, калі паўстае такая палітычная патрэба.

Цалкам камічна паводзіць сябе посткамуністычная наменклатура, што ўтварыла Рэспубліку Беларусь. Яна правінцыяльная, загледжаная на Маскву, як бабка Параска ў ікону святога Ільі! І не менш камічныя нашы прэтэнзіі да наменклатуры ў Менску. Нам здаецца, што ў гэтых людзей ёсць пачуццё Айчыны, патрыятызм, нацыянальная годнасць. Гэта наша памылка, бо яны напэўна не беларусы, а нават і не рускія, а ўсё яшчэ - савецкія! І такімі застануцца да самое магілы. Ельцынаўская наменклатура пабойваецца сваіх сяброў у Беларусі, бо яны могуць нарабіць ёй клопатаў. Што менавіта? А тое, што па сваёй нясталічнай неразвітасці могуць дапусціць да ўлады ў Менску тых жа ашаломных бальшавікоў, з якімі ў Маскве толькі забаўляюцца, як той кот з ачмурэлаю мышкаю...

Ну, але такое бяды: у Беларусі стаіць салідны кантынгент расійскай арміі, з самалётамі, танкамі, артылерыяй, усякіх тыпаў ракетамі ўрэшце.

Скончым палітычнае застолле ў Вялікдзень на ўласным падворышчы, вузка беластоцкім. Маем тут свайго Ельцынка, Цімашэвіча. Калі трэба яму, адразу заварушацца ў гайнаўска-бельскіх гмінах і мястэчках свае, родныя, дурні. Як у Маскве крычаць: "Вярніце СССР!", так у нас: "Аддайце Польскую Народную Рэспубліку!" І не растлумачыш ім, што гэта кваліфікуецца ў паняцце гістарычнага ідыятызму... Бо: пастаў ты Цімашэвіча хоць і на прэзідэнта Польшчы, усё роўна быў бы ён вымушаны рабіць больш-менш тое самае, што робіць цяпер Валэнса.

Супроць Часу не паскачаш! Мінулае не вяртаецца, як не вяртаецца да жыцця нябожчык.

Не прыстасуешся - будзеш шылам хлеб есці, любіў гаварыць мой Бацька, патомны рамеснік.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# З ЛЕНІНСКАГА БЛАСЛАЎЛЕННЯ

Мікалай Лук'янюк назваў мяне нядаўна пярэхрыстам ("Ніва" н-р 12), чаго не лічу знявагай, а наадварот, жадаю майму сябру Мікалаю, каб зрабіў гэта самае і лепш пазнаў Бога. Толькі ў такі спосаб можа ён вызваліцца ад камуністычнай адурманенасці. Сёння, калі пра Леніна можна даведацца амаль усё, Лук'янюк піша, што быў ён сімвалам чалавечай і нябеснай справядлівасці. Гэты кат і забойца, які ў адзін дзень пасылаў на смерць дзесяткі тысяч людзей, ужо надта доўга быў прадметам культу для мільёнаў ашуканых прапагандай няшчасцікаў. Сталін, яго найвярнейшы вучань, зусім незаслужана адзінока існаваў у галерэі камуністычных пачвараў. Хрушчоў - Мікіта зрэшты - таксама чалавек Сталіна, зваліў віну за ўсе злачынствы на свайго шэфа і яго першага памочніка Лаўрэнція Берыю. Людзі абураліся на Сталіна, кахалі "лагодная" Мікіту, які толькі на Украіне ў канцы 30-х гадоў выдушыў некалькі сот тысяч г. зв. "кулакоў". Кожны наступны чырвоны фюрэр паклікаўся на навукі Леніна, прадстаўляў сябе як адзінага, які зразумеў глыбіню думак прарока Ульянава. Усялякая канкурэнцыя да ўлады зараз абвінавачвалася як парушэнне ленінскіх вартасцяў ці прынцыпаў.

Хаця папраўдзе канцлагеры прыдумалі англічане, але іх адкрыццё дацаніў толькі Уладзімір Ільіч. Сталін, Гітлер ці Брэжнеў толькі ўдасканалілі гэту найбольш кашмарную сістэму знявольлення чалавека. Паважаны спадар Лук'янюк, гэта не Сталін пачаў разбураць цэрквы і святароў жыўцом у зямлю закопваць. Усе гэтыя зверствы пачаліся яшчэ пры Леніне. На Ільіча спасылаліся такія людаеды, як Мао Цэ-Дун, Поль Пот, Кім Ір Сен. Для мільёнаў азіятаў яны былі, або і яшчэ ёсць, сімвалам справядлівасці, роўнасці, вольнасці і дабрабыту.

Не ведаю як вы, шаноўны спадар Мікалай, але я не хацеў бы жыць у сістэме, у якой пра мой лёс можа рашаць хворы на нейкую "класавую нянавісць" псіхапат. А так, на жаль, у мінулым бывала, што чалавека будзілі ў сярэдзіне ночы і казалі яму, што ён чыйсьці там вораг, адначасова прапануючы адпачынак у курортах на Салаўках.

Я перакананы ў тым, што гісторыя XX стагоддзя без Леніна мела б куды прыгажэйшы вобраз.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# НЕ СВЯТКАВАЛІ, АЛЕ СВЯТКАВАЦЬ НЕ ЗАБАРАНЯЛІ

Увечары 25 сакавіка ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі праходзілі ўрачыстыя сход і канцэрт, прысвечаныя 75 гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Слухаючы гарачыя прамовы і патрыятычныя песні, успамінаў я, як двума гадамі раней у гэты дзень павесілі былі адзін-адзінюткі бел-чырвона-белы сцяг у Менску, на Траецкім прадмесці. Вісеў ён усяго некалькі гадзін, да вечара, а тады прыехалі пажарнікі з доўгай драбінай і проста яго „убралі". З паламаным дрэўцам ад сцяга — доказам злачынства — хадзіў потым па сталіцы старшыня „Талакі" Сяржук Вітушка. Прыйшоў з ім і ў Дом літаратара, дзе тады таксама праходзіла ўрачыстая вечарына ў гонар Акту 25 Сакавіка.

Але куды было той вечарыне да сёлетніх святкаванняў! Была гэта ўсяго сустрэча жменькі інтэлігентаў, падобная хутчэй на тэатральны спектакль, чымсьці нацыянальнае свята.

У гэтым годзе, хаця дзень 25 сакавіка ў Рэспубліцы Беларусь лічыўся будзённым (дзяржаўным святам лічыцца 27 ліпеня), 75 гадавіну Акту незалежнасці адзначалі па ўсёй краіне. З гэтай нагоды ладзіліся самыя розныя культурныя мерапрыемствы: канцэрты, выставы, урачыстыя вечарыны.

Карыстаючыся такой двухзначнай пазіцыяй цэнтральных улад — самі не святкуем, але святкаваць не забараняем — у шмат якіх абласных і раённых цэнтрах ініцыятыву па правядзенні ўрачыстасцяў у гонар Дня незалежнасці узялі ў свае рукі мясцовыя кіраўнікі і арганізавалі зусім афіцыйныя святкаванні.

Але цэнтральнай падзеяй была якраз вечарына ў Дзяржаўнай філармоніі, у якой прыняў ўдзел старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Прысутнасць главы дзяржавы ўспрынята была як палітычная дэкларацыя, паколькі ў парламенце ішла якраз вострая барацьба за будучыню Беларусі і яе месца ў палітычна-вайсковых і эканамічных структурах СНД. Чым закончыцца нечарговая адзінаццатая сесія Вярхоўнага Савета, калі я пакідаў Менск, цяжка было прадбачыць.

Найбольшую палітычную акцыю з нагоды Дня незалежнасці наладзіў 21 сакавіка Беларускі народны фронт „Адраджэнне". Было гэта шэсце па праспекце Скарыны і мітынг у Парку Купалы, удзельнікі якога, апрача адзначэння гадавіны гістарычнай падзеі, выказалі свае слова наконт сённяшняй сітуацыі. 15 тысяч народу патрабавала адстаўкі прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, які імкнецца да вайскова-палітычнага саюза з Расеяй і ўтварэння адзінай эканамічнай рублёвай зоны на тэрыторыі былога СССР. Гэта, на думку апазіцыі, азначае канец маладой беларускай незалежнасці.

Практычна цэлы тыдзень, з 21 да 27 сакавіка праходзіў пад знакам 75 гадавіны абвяшчэння незалежнасці. Апошняй падзеяй, прысвечанай гэтай гадавіне было адкрыццё помніка братам Івану і Антону Луцкевічам у Вільні, на могілках Росы. Каля помніка была ўсыпаная сімвалічная магіла. Сам гэты акт быў таксама ў нечым сімвалічны – менавіта тут, у гэтым горадзе нараджалася думка аб незалежнасці.

Ці Беларусь ужо дачакала, як гавораць адны, ці яшчэ яна толькі наперадзе, як сцвярджаюць іншыя? Час пакажа, але мне здаецца, што праз год у беларускіх календарах 25 Сакавіка будзе зазначаны чырвоным колерам.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ПАМЯЦЬ ПРА ЯЎРЭЯЎ

У свядомасці грамадства бытуе вобраз яўрэя як хітрага, цынічнага чалавека, які не грэбаваўся працай, а толькі выкарыстоўвае працавітых, добрасумленных хрысціянскі народ. Пра жыдоў паўстала куды больш міфаў, чым пра беларусаў, да таго ва ўсялякіх ксенафабічных уяўленнях мы выглядаем як нічому не пагражаючыя прыдуркі, яўрэі ў той час — як крыніца дэмаралізацыі кожнага высокароднага народа.

Няхай хтосьці паспрабуе сёння растлумачыць маладому чалавеку, які дзесяць гадоў вучыўся закону божага, што ўсе першыя хрысціянскія святыя, у тым ліку і Прасвятая Дзева Марыя, былі яўрэямі. Дарэмнае намаганне. З цэлай рэлігійнай адукацыі найбольш запамяталася падзея, як жыды забілі Хрыста, а зусім незразумелае і чужое астаецца тое, чаго Ён навучаў людзей.

Перад II сусветнай вайной амаль 20 % насельніцтва Беласточчыны складалі яўрэі. У горадзе Беластоку было іх 60 % агулу насельніцтва, а ў такіх мястэчках як Гарадок, Крынкі, Заблудаў, Орля, Міхалова, Тыкоцін, Мілейчыцы — нават звыш 80%. Сёння пасля іх асталося толькі некалькі старых дамоў, некалькі бажніц і рэшткі могілак у Беластоку, легенды і стэрэатыпы.

Сімвалам варварства сучаснага грамадства і недахопу пашаны, перш за ўсё да сябе, ёсць лёс гэтых яўрэйскіх святыняў і могільнікаў. Каменныя пліты з надгробнымі надпісамі ляжаць сёння ў фундаментах не аднаго дома, якога жыхары набожна моляцца да таго ж самага Бога, якому адрасаваныя былі словы высечаныя ў камені.

Кім былі людзі, якія жылі побач нашых бацькоў і дзядоў, і з якімі так страшэнна абышлася гісторыя? Пра яўрэяў у сваім жыцці я прачытаў некалькі навуковых і белетрыстычных кніжак, аднак крыніцай, якая фармавала маё бачанне іх культуры, абраднасці ці менталітэту былі ўспаміны маіх бацькоў.

Амаль кожны дзень хтосьці з заблудаўскіх яўрэяў прыязджаў з нейкім „гешэфтам" у нашу вёску. Пяшком з вёскі да вёскі, з хаты да хаты хадзіў Янкель, які таргаваў іголкамі, гузікамі, ніткамі, напарсткамі і іншым барахлом. „Жалезняком"прыяздждаланекалькі такіх гандляроў. Адзін купляў шмоцце, лён, воўну, узамен плаціў гаршкамі, селядцамі і ўсялякімі іншымі таварамі, патрэбнымі ў гаспадарцы. Другі купляў яйкі, малако, трэці шукаў жарабят, цялят, маладых авечак. Чалавек з барадою, які хаця і гаварыў па-беларуску, але з нейкім дзіўным акцэнтам, сваёю іншасцю выклікаў зацікаўленне дзяцей і ісхільнасць да жульніцкіх жартаў.

Калі камусьці з жыхароў вёскі пільна патрэбныя былі грошы, а цяжка было іх пазычыць у суседзяў ці сваякоў, надзея аставалася ў яўрэях. Зразумела, як у кожным банку, пазыку трэба было вярнуць з працэнтам, хаця б сімвалічным.

Калі ў Заблудаве чалавек ішоў вулічкай з яўрэйскімі крамамі, амаль кожны ўласнік, стоячы ў дзвярах, запрашаў да сябе. Калі хтосьці яму гаварыў: „І так нічога не куплю, бо не маю грошай", найчасцей чуў такі адказ: „Ну, а ці я табе гавару купляць, ты толькі ўвайдзі і глянь, які ў мяне тавар". А калі ўжо нейкі пакупнік і апынуўся ў нутры такой крамы, абавязкова вымушаны быў выслухаць пахвальную паэму наконт тавару, які выказаў ахвоту купіць. Пасля пачуў цану, якая магла зваліць з ног чалавека, нават найбольш псіхічна ўраўнаважанага. Калі хтосьці ўсур'ёз думаў купіць нейкі тавар, найчасцей прапанаваў цану ў 10 разоў меншую чым тая, якую назваў уласнік крамы і пры гэтым трэба было таксама рашуча ганьбаваць тавар, які прадаўшчык нядаўна расхвальваў. Парадачны пакупнік, як мінімум, 5 разоў выходзіў з крамы, хапаўся за галаву, абураны высокай цаной тавару, а яўрэй трымаў яго за руку, цягнуў назад і ад пачатку хваліў тавар. Пасля такога тэатральнага гандлявання жыд аддаваў тавар нават за 20 працэнтаў яго першапачатковай цаны, пераконваючы, што будзе мець вялікія страты з гэтай прычыны.

Сяляне рэдка, аднак, заходзілі ў такую краму, проста не мелі грошай, таму і невялікі быў прыбытак іх уласнікаў. Людзі найчасцей куплялі нафту, запалкі, горшы гатунак солі, на свята адзін або два селядцы, а калі хто жаніўся — боты і кавалак лепшага палатна на каўнер да кашулі.

У 1941 г. псіхапатаў з адхілам на пункце „класавай барацьбы" замянілі ў нас псіхапаты з адхілам на пункце „чысціні расы". Апусцелі мястэчкі Беласточчыны, іх яўрэйскія жыхары аказаліся вінаватымі таму, што нарадзіліся.

Ці без уплыву на псіхіку беларусаў, жывучых у спецыфічных умовах, асталося тое, што на іх вачах амаль бяскарна была вымардаваная з прычыны свае іншасці цэлая шматлікая нацыянальная група? Ніхто гэтага не даследаваў.

Няма сёння хіба ніводнай назвы вуліцы ў гарадах Беласточчыны, якая напаміняла б пра існаванне тут на працягу стагоддзяў людзей іншай культуры і рэлігіі, абраднасці. Невядома чаму ўсе стараліся гэты факт выкрасліць са сваёй памяці. Там, дзе ад стагоддзяў ляжалі жыдоўскія косці, пабудавалі сёння дарогі, крамы, паркі, дамы, а курганы яцвягаў выклікаюць большае зацікаўленне навукоўцаў, чымсьці культурная спадчына яўрэяў, якая так ці інакш рашуча паўплывала на нашую псіхалагічную тоеснасць.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

 

# УВАСКРЭСЕННЕ ХРЫСТОВАЕ — ПАСХА ГАСПОДНЯЯ

Уваскрэсенне Ісуса Хрыста — гэта самае вялікае свята, якое з'яўляецца падставай нашай веры. Яно — найважнейшая праўда, ад аб'яўлення якой Апосталы пачалі сваю місію. Як у выніку смерці Хрыста на крыжы здзейснілася адкупленне нас ад грахоў, так шляхам Уваскрэсення было нам даранае вечнае жыццё.

Апісання самога моманту Уваскрэсення не знойдзем у Евангеллі, бо ніхто з пражываючых на зямлі не адчуў гэтага па сабе. Тым, якія не маюць моцнай веры, няхай падмацаваннем будуць словы Збавіцеля накіраваныя да Апостала Фамы: „...шчаслівыя не бачыўшыя і паверыўшыя" (Іаан. 20, 29).

А вось здарэнні, звязаныя з Уваскрэсеннем Хрыста. Вядома, што Хрыстос памёр на крыжы ў пятніцу каля гадзіны 3-ай пасля абеду. Было гэта напярэдадні яўрэйскай Пасхі. Вечарам гэтага ж дня Іосіф з Арымафеі і Нікадзім (былі яны членамі Сінедрыёна і адначасна тайнымі вучнямі Хрыста) знялі цела Збавіцеля з крыжа, змазалі яго пахучымі алеямі, завярнулі ў палатно-плашчаніцу, і злажылі ў магілу, якой стала скальная пячора. Знаходзілася яна ў агародзе Іосіфа, непадалёк Галгофы. Уваход у магілу закрылі вялікім каменем, Усё гэта зрабілі яны паспешліва з увагі на пачынаючыся вечарам свята Пасхі. Назаўтра, насуперак яўрэйскаму закону, архіпастыры і мудрацы, падаліся да Пілата, каб той дазволіў выставіць страж ля магілы. Баяліся яны, што вучні Хрыста ўкрадуць Яго цела і аб'явяць, што Ён Уваскрос, што менавіта Збавіцель і прадказаў. Не веруючы ў Хрыста, баяліся яны, што страцяць чарговыя ўплывы ў яўрэйскім народзе. Пілат пасылае тады салдат пільнаваць магілу, а архіпастыры ставяць на камені сваю пячатку.

Уваскрэсенне Хрыста здзейснілася на трэці дзень пасля смерці, у нядзелю раніцай, на мяжы ночы і дня.

У Праваслаўі, згодна сказанаму, што ніхто не бачыў Уваскрэсення Хрыста, а таксама, што з'яўляецца яно неспазнанай для нашага розуму тайнай, не відаць Яго на іконе, якая прадстаўляе Жон Міраносіц і Анёла пры пустой магіле Збавіцеля. Найчасцей сустракаемай іконай, якая сімвалізуе Уваскрэсенне Хрыста, з'яўляецца ікона Сашэсця ў пекла. На гэтай іконе Хрыстос выцягвае з бездані Адама і Еву, разбурае брамы пекла і адкрывае дарогу да Збавіцеля справядлівым, якія памерлі да прыходу Збавіцеля на зямлю.

Таямніца Уваскрэсення з'яўляецца так вялікай, як і таямніца Ваплашчэння. Тады душа вярнулася ў цела, якое ажыло і перамянілася, становячыся вечным і незнішчальным (нятленным). Так будзе і ў час паўсюднага ўваскрэсення, пад час другога прыходу Хрыста на зямлю — адны будуць светлыя і радасныя, а іншыя — страшныя, быццам хадзячыя трупы (Мац. 13, 43; Іаан. 5, 28-29, І Кар. 15, 13-22). Хрыстос выйшаў з магілы не парушаючы ні каменя, ні пячаткі. Нічога таксама не бачылі салдаты. Праз нейкі час ля магілы з'явіўся Анёл, які адсунуў камень — гэтаму спадарожнічаў землятрус. Пабачыўшы, што здарылася, перапалоханыя салдаты ўцяклі і паведамілі архіпастыраў. Тыя, пасля дамовы з салдатамі, сталі аб'яўляць, што цела Хрыста ўкралі Яго вучні.

Традыцыя данесла да нас, што Збавіцель аб'явіўся ўпершыню Багародзіцы, якой Анёл перадаў вестку аб Уваскрэсенні, а затым Марыі Магдаліне. У першы дзень Хрыстос аб'явіўся яшчэ іншым Жонам Міраносіцам, а таксама апосталам Пятру, Луцэ і Кляопу, а вечарам — усім адзінаццацю апосталам. Сабраліся яны ў „сіёнскай святліцы" — памяшканні, дзе праходзіла Тайная вячэра. Апосталы схаваліся тут са страху. З Уваскрэсення да Узнясення Хрыстос аб'явіўся амаль 500 вернікам.

Яўрэйскае слова *Пасха* абазначае пераход побач — ідзе тут пра Анёла, які пераходзіў побач дамоў ізраільцян да іх выхаду з егіпецкай няволі. Старазаветная Пасха — гэта ўспамін таго выхаду і іншых здарэнняў, звязаных з гэтай падзеяй. Была яна адначасна правобразам Пасхі Хрыстовай. Вось некаторыя здарэнні, якія датычаць абедзвюх Пасхаў:

* Забіццё пасхальнага ягняці і выратаванне пры дапамозе яго крыві першародных сыноў ізраільскіх — смерць на крыжы Агнеца Божага, якога кроў збаўляе першародных Новага Завету — хрысціян (Выхад 12, І Пётр 1, 19).

* Пераход праз Чырвонае мора і выратаванне ад егіпецкай няволі — хрышчэнне з вады і выратаванне ад д'ябальскай няволі (Выхад 14, 22, І Кар. 10, 1-2, Рым. 6 і 7).

* Медны змей, які засцерагаў ад укусаў ядавітых змеяў — збаўленне ад укусаў духовага змея-д'ябла сілай Крыжа (Лікі 21, 9, Іаан. 3, 14).

Аб уваскрэсенні ўспамінаюць ужо многія прароцтвы Старога Завету, што было запісана ў кнігах Ірэміі, Іезекіля, Даніла, Міхея, Малахіі ці ў псалмах 2, 44 і 109.

Найбольш яснае прароцтва аб муках і ўваскрэсенні Хрыста змешчана ў кнізе Ісаі — у 53 раздзеле.



Свята Пасхі Хрыстовай адзначаецца з апостальскіх часоў. Пачаткова на ўсходзе і на захадзе святкавалі яго ў розныя тэрміны. Дакладны і аднолькавы тэрмін быў устаноўлены на І Усяленскім Саборы ў 325 годзе ў Нікеі і выпадаў на першую нядзелю пасля першай вясенняй поўні месяца. Гэтай святой традыцыі прытрымоўваецца Праваслаўная Царква, а пацвярджэннем яе сапраўднасці з'яўляецца Святы (Благодатный) агонь, які аб'яўляецца на Гасподняй магіле ў Вялікую суботу перад Праваслаўнай Пасхай і толькі падчас набажэнства з удзелам іерусалімскага патрыярха.

Пасхальнае набажэнства складаецца з **Ютрані, пасхальных часоў і Літургії**. Пачынаецца яно Хрэсным ходам вакол царквы. Набажэнства гэтае вельмі радаснае і трыумфальнае, бо спалучаецца яно з вялікім значэннем Уваскрэсення Хрыстова, якое называюць Святам свят.

На працягу Пасхальнага тыдня ў цэрквах звоняць усе званы, а адкрытыя Царскія дзверы напамінаюць вернікам, што Уваскрэсенне адкрывае ўсім дарогу да неба. У гэтым тыдні ў сераду і пятніцу пост не абавязвае. Пасхальныя песні спяваюць да Узнясення і на працягу гэтага перыяду людзі вітаюцца словамі „Хрыстос Уваскрос" — „Сапраўды Уваскрос", а замест малітвы „Цару Нябесны" чытаем тройчы „Хрыстос Воскресе из мертвых..." Трэба таксама памятаць, што з Уваскрэсення на працягу 50 дзён, аж да Святой Тройцы не пакланяемся да зямлі і не становімся на калені.

**С. Н.**

## СТАРАБЕЛАРУСКІЯ СЛОЎНІКІ

У лютым г.г. выдавецтва "Універсітэцкае" ў Менску выпусціла кнігу "Старабеларускія лексіконы" */. Выданне заключае ў сабе тры старабеларускія слоўнікі XVI і XVII ст. ст.:

- "Лексіс с толклваніем словенскіх мов просто"
- "Лексіс... из словенскаго языка на просты рускій діялект истолклваны Л. З.".
- "Синонима Словенороская".

З трох гэтых слоўнікаў дакладна вядомае аўтарства толькі другога. З'яўляецца ім Лаўрэнцій Зізаній. Як ягоны слоўнік, так і "Лексіс... просто" тлумачаць стараславянскія словы на старабеларускую мову. "Синонима Словенороская", найабшырнейшы са слоўнікаў, наадварот, дае тлумачэнне старабеларускіх слоў на старарускую і часткова стараславянскую мовы. Звяртае тут увагу блізкасць (сінанімічнасць) старабеларускай і старарускай моў.

Складальнікам "Старабеларускіх лексіконаў" з'яўляецца Алена Яськевіч, мовазнавец і даследчыца старабеларускай літаратуры.

У артыкуле "Пачуццё моўнай радзімы", змешчаным у той жа кніжцы, складальнік звяртае ўвагу на рэдкае лексічнае багацце, што знаходзіцца ў старабеларускіх слоўніках ды патрэбу дзейнага іх выкарыстання для ўзбагачэння сучаснай беларускай мовы.

"Старабеларускія лексіконы", кніга з якою варта пазнаёміцца беларусам Беласточчыны, асабліва тым, што пражываюць на Бельшчыне, Гайнаўшчыне ці Сямяціччыне і штодзень гавораць на дыялекце, які ў чыстым выглядзе захаваў вельмі многа супольнага са старабеларускай мовай. Кніга вартасная таксама для тлумачэння царкоўнаславянскіх слоў.

На заканчэнне варта згадаць, што кніга была выдадзена стараннем Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў у Менску ды Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

**(М.)**

---

*/ *"Старабеларускія лексіконы", складальнік А. Яськевіч. Менск. Універсітэцкае. 1992.*

P.S. "Старабеларускія лексіконы" можна набыць за паштовым залічэннем у Брацтве Праваслаўнай Моладзі ў Бельску, вул. Міцкевіча 36 (банкавы рахунак: PKO O/Bielsk Podlaski 5614-36663-136).

Кошт з дастаўкай па пошце 15 тысяч зл. (Сродкі з продажу будуць перададзены на дзейнасць Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў у Менску).

## „ХРЫСТОС УВАСКРОС"

Уначы, з суботы на нядзелю ўрачысты і радасны перазвон абвесціць вернікам вясёлую навіну пра Хрыстова Уваскрэсенне. Апоўначы, з па-за зачыненых „царскіх дзвярэй" раздасца спеў „Уваскрэсенне Тваё, Хрысце Збаўца..." і працэсіі з харугвамі і іконамі рушаць вакол храмаў. Непаўторная містэрыя пасхальнай ночы зноў разыграецца перад нашымі вачыма. На велікоднае прывітанне „Хрыстос уваскрос" мы ўрачыста адказваем „Сапраўды ўваскрос". Для вернікаў — гэта не пустая фраза, не традыцыйная фармальнасць, але выяўленне глыбокай веры і ўпэўненасці, што Хрыстос сапраўды ўваскрос „на трэці дзень згодна Пісанням".

Хрыстос неаднойчы прадказваў гэтую неверагодную падзею: „Як Іона быў у чэраве кіта тры дні і тры ночы, так і Сын Чалавечы будзе ў сэрцы зямлі тры дні і тры ночы" (Мац. 14,40). У гэтай найвялікшай падзеі заключаецца ўвесь Божы план збаўлення. Цуд, які здарыўся ў велікодны ранак, уваскрэсенне забітага і пахаванага Хрыста з'яўляецца пацвярджэннем Ягонай боскасці і фундаментам веры. Ён азначае, што смерць пераадолена; ейная ўлада зломленая і знікла боязь перад ёю. Цяпер мы можам паўтарыць за Псалмапеўцам Давідам: „Калі нават я пайду далінаю смерці — не пабаюся зла, таму, што Ты са мною: Тваё жазло і Твой посах — яны ўспакойваюць мяне" (Пс. 22,4). Калі б Сімвал Веры канчаўся словамі: „І быў укрыжаваны за нас пры Понцкім Пілаце, і адцярпеў і быў пахаваны"; калі б гэтым сумным акордам закончыўся Ягоны зямны шлях — хрысціянства было б пабудовай без фундаменту. Якое значэнне мела б для сучаснага чалавека, што дзве тысячы гадоў таму жыў незвычайны чалавек, які навучаў, аздараўляў і адпускаў грахі. Гісторыя ведае шмат выдатных людзей, аднак пра ніводнага нельга сказаць: „Яго няма тут — ён уваскрос".

Велікодныя святы супадаюць з адраджэннем прыроды пасля зімовага сну да новага жыцця... Гэта свята канчатковай перамогі дабра і прыгажосці над сцюжамі, злом і пакутамі. Першая вясенняя зелень прыносіць рэфлекс праўды аб адвечным аднаўленні жыцця, выходзячы насуперак прадаўнім журбам чалавецтва. Туга за несмяротнасцю гучэла ўжо ў малітвах, гімнах і пахавальных абрадах першабытных народаў. Людзі ўсіх расаў марылі пра вечнае жыццё. „Бог Раўзяў чалавека на неба, каб чалавек мог там жыць як Ён жыве" — чытаем у старажытным рукапісе знойдзеным у егіпецкай пірамідзе. Некаторыя народы лічылі смерць сном, пасля якога наступіць прабуджэнне на векі. Мексіканцы збіралі косці памерлых у кошык і вешалі на дрэве, каб у дзень уваскрэсення не трэба было доўга іх шукаць. Дзеля гэтага, перуанцы дбайна складалі ў адным месцы ногці і валасы. Даследнікі старажытнасці ведаюць мноства міфаў пра багоў, якія паміралі і ўваскрасалі. У першых хрысціян вера ва ўваскрэсенне была асабліва моцнай. Смерць не лічылі яны жахлівай, годнай жалобы і аплаквання. У катакомбах Калікста захаваўся надмагільны надпіс: „Каханаму Кірыяку, найдаражэйшаму Сыну — жыві ў Духу Святым".

З праўды аб уваскрэсенні вынікае для нас абавязак адпаведнага стаўлення да жыцця. Апостал Павел заклікаў: „Дык калі вы ўваскрэслі з Хрыстом — шукайце ж узгорняга... аб узгорнім думайце, а не аб зямным". (Кал. 3,1-2). Гэта значыць, што ва ўсіх нашых справах і дзеяннях, трэба ўваскрашаць сапраўдныя Божыя планы, дзеля якіх яны пакліканы да жыцця... Згодна велікоднай песні: „Назавем братамі і тых, хто ненавідзіць нас ды адзін аднаго абымем", нам неабходна даваць доказ свайго адраджэння адпаведным стаўленнем да іншых людзей, выкананнем сваіх штодзённых абавязкаў, кожным словам і жэстам. Пераадоленя вымагаюць шматлікія ўкаранелыя заганы, з якімі мы можам лічыць сябе добрымі праваслаўнымі, але застаемся дрэннымі хрысціянамі. Усім нам трэба вяртацца да прыроднай дабрыні, да адрознівання дабра і зла, якія міжвольна, у штодзённым жыцці, неаднойчы робяцца ўмоўнымі...

Хай для ўсіх нас сёлетняе Свята будзе святам сапраўднай, нічым не азмрочанай радасці і духоўнай вясны, аптымізму і надзеі на лепшую будучыню для кожнага з нас.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**



 

# ТРЫ ГАДЫ „ЧАСОПІСА”

**„Часопіс” гэта інфармацыйна-культурнае выданне Усходняй Беласточчыны, якое выходзіць у нас з красавіка 1990 года. Дагэтуль паказалася 28 нумароў.**

*— Калі два гады таму гутарыў я з вамі пра „Часопіс”, вы сказалі мне, што выданне ўзнікла як незалежная ініцыятыва, не падчапляючыся пад ніякую фірму. Ці і надалей трываеце без ніякай структуры?*

**Юрка Хмялеўскі**: „Часопіс” сёння, што можна прачытаць у даведцы на другой старонцы, выходзіць як выданне Асацыяцыі беларускіх журналістаў. Асацыяцыю стварылі мы па дзвюх прычынах: па-першае, Міністэрства культуры і мастацтва дафінансоўвае толькі праекты юрыдычных асоб, а мы як рэдакцыя асобай такой да мая 1992 года не былі; па-другое, Асацыяцыю лічу цікавай ініцыятывай. Выходзіла калісьці такая газета „Голас Гарадка” — у нас быў намер падтрымаць гэтае выданне. У верасні 1992 года Асацыяцыя беларускіх журналістаў прадставіла Міністэрству культуры і мастацтва праект выдання падручнага польска-беларускага слоўніка. Міністэрства поўнасцю праект гэты падтрымала, паколькі няма ў нас польска-беларускага слоўніка, які адпавядаў бы патрэбам часу. Слоўнік маюць выканаць Ян Максімюк і Сяргей Шупа — супрацоўнікі нашай беластоцкай „Нівы” і віленскай „Нашай Нівы”. Пад канец гэтага года слоўнік мае быць здадзены ў друк.

*— Галоўнай аднак дзялянкай дзейнасці Асацыяцыі з'яўляецца выдаванне „Часопіса”...*

**Юрка Каліна**: Людскі патэнцыял у нас настолькі сціплы, што акрамя „Часопіса” занадта сабе не падзейнічаем. Рэдакцыйную працу выконваюць дзве асобы на штатах. Самі займаемся кальпартажам — выдатна дапамагае нам у гэтым большасць праваслаўных прыходаў на Беласточчыне, а таксама дырэкцыі і настаўнікі беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы. Сардэчнае ім дзякуй за гэту падтрымку.

**Юрка Хмялеўскі**: „Часопіс” імкнемся выдаваць прафесійна, хаця мы, як рэдакцыя, мабыць і не маем адпаведнай журналісцкай падрыхтоўкі. Аднак трэба сказаць, што адчуваем ужо ціск таго чытацкага рынку, які праз гэтыя тры гады сабе здабылі. Спачатку „Часопіс” пэўна і не меў сваёй лініі, быў тэхнічна недасканалым. Сёння, аднак, ужо не можам сабе дазволіць на тое, каб панізіць узровень — пра чытача, які стаў вельмі пераборлівым і патрабуючым, трэба дбаць. Раней афіцыйныя асобы з розных асяроддзяў трактавалі нас не надта сур'ёзна — от, такія студэнцікі, якія нечым там займаюцца. Цяпер адносіны гэтыя змяніліся — думаю, што функцыянуем ужо ў іхняй свядомасці як нармальная сталая рэдакцыя.

**Юрка Каліна**: На нашым мясцовым выдавецкім рынку было шмат эфемерыдаў — выходзілі лістовачкі па некалькі старонак і зніклі. Людзі спачатку маглі так думаць і пра нас. Але, з цягам часу, павялічваўся аб'ём выдання, узрастаў лік супрацоўнікаў, павышаўся тэхнічны ўзровень і, у выніку, нават нашы неадна-думцы, якія лічылі нас „групай неадказных маладых людзей без аніякай падтрымкі ў грамадстве”, пачалі з намі лічыцца. Што ж, яны памыліліся.

*— Пераглядаючы ўсе нумары „Часопіса”, адразу кідаецца ў вочы пастаянна-настойлівы рост тэхнічнага ўзроўню выдання. Як ацэньваеце тыя тэхнічныя магчымасці, якія маюцца ў вашым распараджэнні дзеля распрацоўкі кожнага чарговага выпуску?*

**Юрка Хмялеўскі**: Калі пачалі мы арганізаваць рэдакцыю — цягнулася гэта доўгімі месяцамі і, адчуваю, усё яшчэ цягнецца — бралі мы прыклад з іншых арганізацый. Разумелі, што можна добра арганізаваць працу абапіраючыся на камп'ютэрную тэхніку. Але, беручы пад увагу спецыфіку выдання — тэксты друкуюцца на польскай і беларускай мовах, узніклі некаторыя цяжкасці. Спачатку скарысталі мы камп'ютэры перададзеныя беларускім арганізацыям у Польшчы беларускай эміграцыяй, пазней купілі свой камп'ютэр. Зрабіць у Польшчы выданне на беларускай мове не аказалася такой простай справай — беларуская мова не мае добра распрацаваных камп'ютэрных шрыфтоў. Кожны, хто займаецца выданнем на беларускай мове, карыстаецца шрыфтамі зробленымі „хатнім спосабам” — няма аднак дагэтуль аднаго стандарту. Іншыя славянскія мовы, хаця б польская, стандарты такія выпрацавалі. І падумаць толькі, што першадрукаром сярод усходніх славян быў беларус.

Калі думаць пра выдаванне „Часопіса” на адпаведным тэхнічным узроўні, а хочам, каб такім ён быў, трэба ж пры наборы карыстацца прыгожымі шрыфтамі, макет павінен адпавядаць агульна прынятым эстэтычным нормам, трэба ўводзіць больш колераў і друкаваць на высокаякаснай паперы. Пакуль што, нашы фінансы не дазваляюць ажыццявіць шмат якія нашыя намеры, але веру, што калісьці дойдзем да такога ўзроўню, які будзе задавальняць і нас, і нашых чытачоў.

*— Ну, а што пра „Часопіс” думаюць яго чытачы, бо ж чытаецца ён як у беларускім, так і ў польскім асяроддзях?*

**Юрка Каліна**: „Часопіс” увёў беларускую праблематыку ў польскамоўнае асяроддзе, як праваслаўнае, так і каталіцкае. Дагэтуль пра беларускія пытанні пісала толькі „Ніва”, але з прычыны моўнага бар'еру гэта не ўспрымалася ў польскамоўным асяроддзі. Аж тут, з'явілася выданне, якое піша пра беларускую праблематыку папольску, часта праблематыку ў польска-беларускіх узаемадачыненнях вельмі далікатную. Лічу, што „Часопіс” адыграе станоўчую ролю ва ўстанаўленні нармальных адносін паміж беларусамі і палякамі на Беласточчыне.

*— Дзякую за размову.*

Гутарыў і запісаў
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
Фота М. Лукшы



*Юрка Хмялеўскі за пультам камп'ютэра.*

# ВАЛАЧОБНІКІ ВАЛАЧЫЛІСЯ...

☛ *Працяг са стар. 1*

срэбра і чырвонае яйка, спадзеючыся разбагацець і памаладзець. Дзяды расчэсваюць валасы з прыгаворам: „Колькі на галаве валасоў, няхай столькі будзе ўнукаў”. У першы дзень свята гаспадары не наведваюць суседзяў, таму што хтонебудзь з людзей падумае, што такія госці жабруюць, г. зн. што, не маючы ў сябе „свянцонага”, жадаюць паесці яго ў замožных суседзяў.

Кожную раніцу на працягу ўсяго светлага тыдня трэба есці перш за ўсё свянцонае, пасля снедання ці абеду свянцонай ежы нельга каштаваць. Абрус, якім накрыты стол, захоўваецца недатыкальным на працягу ўсяго года: ён ахоўвае ад граду, і таму пры з'яўленні градавых хмар рассцілаецца на двары. Косці ад свянцонага мяснога закопваюцца ў зямлі на нівах, таму што гэта садзейнічае добраму ўраджаю. Гэтыя ж косці засцерагаюць сабак ад шаленства.

На другі дзень Вялікадня пачынаюцца велікодныя ўвесяленні. Моладзь ладкуе арэлі (гушкалкі). Гушканне суправаджаецца жартамі, песнямі і ігрой на гармоніку, скрыпцы. А вось агульная харавая песня, якая выконваецца ў час гуляння моладзі.

*Як я цябе да не бачу,*
*Я па табе дзень-ноч плачу.*
*Як я сяду блізка цебе,*
*Мне здаецца, што я ў небе.*
*Як я цябе пацалую,*
*Тры дні ў губах слодасць чую.*

Выключна велікоднай забавай служыць гульня ў яйкі, якая мае дзве разнавіднасці: біццё і качанне з горак. Перш чым біцца яйкамі, звычайна іх мацуюць, г. зн. выпрабоўваюць іх моц пастукваннем яек аб зубы. Гульня гэта шырока распаўсюджана не толькі сярод моладзі, але і паміж старымі і дзецьмі. Выйграе яйка той, у каго яно будзе мацнейшым і таму не разбіваецца аб другое. Калі ў каго-небудзь яйка акажацца вельмі моцным, то ён „выбівае”, г. зн. выйграе яек вельмі шмат. З горкі качаюцца яйкі па раней наладжанай дарожцы. Тут выйграе той, чыё яйка далей закоціцца.

На другі і трэці дзень Вялікадня па вёсках хадзілі валачобнікі. Так называліся велікодныя славельшчыкі-спевакі. Назва паходзіць ад старажытнага слова „валачоба”, што значыла „барабанванне”. Хор валачобнікаў (8-20 чалавек) вярбаваўся спачатку з любых людзей, потым з бабылёў, батракоў і беднякоў. Аднак у валачобнікі ішлі і заможныя людзі. Кіраўніком і асновай хору лічылся пачынальнік - запявала, астанія называліся падхватнікамі. У пачынальнікі найчасцей выбіраўся заможны гаспадар, абавязкова галасісты і пры гэтым бойкі, нават назойлівы, каб пры выпадку мог выпатрабаваць добрую ўзнагароду за песню. Акрамя таго, у хоры для акампанементу прысутнічаў вясковы скрыпач і механоша-казнавальнік, кашаланос, які насіў у мяшку сабраныя натурай падачкі і захоўваў грашовыя зборы. Усё сабранае дзялілася паміж валачобнікамі пароўну, толькі пачынальнік і музыка атрымлівалі большую долю.

Гурт звычайна станавіўся пад акном хаты паўкругам, усярэдзіне пачынальнік, які запяваў адну частку песні, а падхватнікі альбо ўвесь хор паўтараюць словы пачынальніка ці толькі адзін прыпеў: *Хрыстос уваскрос на ўвесь свет*, ці: *Хрыстос уваскрос, Сын Божы.* Запявала нярэдка суправаджаў сваё сола адпаведнымі рухамі цела, а падхватнікі ў час прыпеву пляскалі ў далоні. Пасля заканчэння песні кім-небудзь з гурту, а часам і змешанымі галасамі многіх, гаварылася кароткае вітанне:

*Добры вечар, слаўны пане,*
*слаўны пане, пан Антон,*
*ці пазволіш песню спеці?*

Затым звычайна гаспадар ці гаспадыня адчыняюць акно, дзякуюць валачобнікам і падаюць ім пяток ці дзесятак яек, пірог, хлеб, кавалак сыру або варанага мяса, грошы. Ад шчырасці, зычлівасці гаспадара залежыць паклікаць валачобнікаў у хату, ці не — самі яны не заходзяць — і паднесці ім па чарцы ці па дзве гарэлкі. Атрымаўшы ўзнагароду, гурт дзякуе гаспадару ці словамі, ці асобнай кароткай песняй, жадаючы яму ўсякага прыбытку і плёну. Здараецца, што надзея падманвае валачобнікаў. Песні яны праспяваюць, чакаюць, што вось зараз заможны гаспадар узнагародзіць іх, а тым часам у адказ ім толькі пастукаюць у акно і скажуць: *Ідзіце сабе з Богам далей.* У гэтым выпадку пачынальнік звычайна адстойвае годнасць. У адрывістых, але моцных выразах, ён пратэстуе супраць няветлівасці і скнарнасці гаспадара:

*Каб тваіх дзетак трасца трасла,*
*Каб на тваім плоце крапіва расла!*
*Не дасі ячка, здохне авечка,*
*Не дасі кока, вылезе вока.*

Гурт велічаў і славіў гаспадара, яго працу, зычыў плёну на ніве, прыплоду ў статку, шчасця ўсёй сям'і. Велічалі і ўслаўлялі таксама гаспадыню як мудрую мужаву дарадчыцу і памочніцу, незамужнюю дачку, нежанатага сына, а таксама бабулю.

*Валачобныя людзі добрыя*
*Валачыліся, замачыліся.*
*Зайшлі к бабцы, пасушыліся,*
*(...) А тая бабка — усім па ячку.*

Узнікненне звычаю хаджэння валачобнікаў людзі тлумачаць патрэбай дзяліцца маёмным з немаёмнымі велікоднай ежай, каб і бядняк меў што паесці ў час Вялікадня.

Самі валачобнікі глядзяць на свой занятак амаль як на рэлігійны абавязак: прахадзіць пад вокнамі ўсю ноч з песнямі ў сваёй вёсцы і ў суседніх у іх значыць без мала тое, што прайсці на каленях вакол царквы ці праляжаць крыжам на царкоўнай паперці ўвесь час, пакуль адпраўляецца служба. А гаспадары павінны прымаць дакучанне як прыемныя і карысныя віншаванні і чакаць валачобнікаў як бласлаўлёных гасцей і прадвеснікаў лёсу гаспадаркі.

Святкаванне Вялікадня працягваецца толькі тры дні, астатнія ж дні тыдня не лічацца святымі, хаця людзі ўстрымліваюцца ад работы. І так у сераду не працуюць на полі, каб град не пабіў пасеваў, чаму і называецца гэты дзень Градавай серадою, у пятніцу не працуюць, таму што яна лічыцца асаблівым святым днём.

Закончыўся Велікодны тыдзень, і сяляне чакаюць Радаўніцы, якая паступае ўслед за Вялікаднем, каб на могілках са сваімі бацькамі і дзядамі пахрыстосавацца.

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**

# ЯШЧЭ ПРА КАЛГАС У ТРАСЦЯНЦЫ

Ад майго візіту ў гэтай мясцовасці да часу, калі быў надрукаваны матэрыял „У нашым калгасе ні граша ў запасе”, прайшоў месяц. За гэты час жыццё ўвяло сваю карэкціроўку ў планы старшыні калгаса Міраслава Урбановіча. З тых варыянтаў будучыні сваёй і прадпрыемства, якія ён тады разглядаў, спраўдзіўся найбольш песімістычны сцэнарый.

У канцы сакавіка Міраслаў Урбановіч, не бачачы ніякага рэзультату сваіх высілкаў, перастаў выконваць функцыю старшыні Сельскагаспадарчага кааператыва ў Трасцянцы.

**М. В.**

# Я - ПРОСТА АРТЫСТ

**АДА ЧАЧУГА ГУТАРЫЦЬ У 75-Ю ГАДАВІНУ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ З ЮРЫЕМ АВЯР'ЯНАВЫМ, АРТЫСТАМ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ, ПРА ТЭАТР, БЕЛАРУСКУЮ МОВУ І ... ПАЛІТЫКУ.**

*-Ай-яй-яй! І не сорамна табе, што сёлета наша першая сустрэча адбылася на вуліцы, а не ў рэдакцыі "Нівы", якая, што ні кажы, "сасватала" Тэатр імя А. Вянгеркі ў Беластоку і Беларускі дзяржаўны тэатр імя Я. Купалы ў Менску. Я думала, што ты адразу забяжыш у "Ніву"...*

- А я так і меркаваў, калі мы з нашым галоўным рэжысёрам Валерыем Раеўскім і акцёрам Уладзімірам Кін-Камінскім прыехалі на рэпетыцыі гогалеўскага "Рэвізора", якога мы паставілі супольна з тэатрам А. Вянгеркі. Але адразу неяк не выйшла. "Рэвізора" ў рэжысерыі Валерыя Раеўскага мы рыхтавалі два месяцы, а пасля я яшчэ браў удзел у двух спектаклях нашага тэатра, з якімі ён прыехаў на гастролі ў Беласток: у "Доме на мяжы" С. Мрожка (рэжысёр - Анджэй Якімец) і ў "Тутэйшых" Я. Купалы (рэжысёр М. Пінігін з Менска).

*- Гледачы і крытыкі асабліва заўважылі майстэрства твайго выканання ролі куратара Землянікі ў "Рэвізоры" і заходняга вучонага ў "Тутэйшых". Палякі, напрыклад, былі захоплены, як добра ты валодаеш польскай мовай. Калі ты яе вывучыў, здаецца, ты тут усяго другі раз?!*

- Гэтага хапіла. Я наогул люблю вывучаць мовы. Вядома, я стараўся. "Тутэйшыя" - гэта спектакль, які абуджае свядомасць людзей, і я ніколі не забуду твары гледачоў, якія ў адзіным парыве ўставалі са сваіх месц у фінале спектакля, калі ўздымаўся бел-чырвона-белы сцяг. Гэты ж спектакль мы змаглі паставіць толькі пры Гарбачове, ды і то колькі было з гэтым валакіты...

А што датычыць "Рэвізора", дык жа і гэты спектакль, па-мойму, вельмі на часе. Гэта ж рэвізія душы, грамадства. Праблема: Бог і чалавек. Гогаль у сваіх нататках пісаў, што ўсе ролі трэба іграць вельмі сур'ёзна. Гогалеўская ідэя ідзе на касмічныя абагульненні. Рэжысёрская канцэпцыя Валерыя Раеўскага якраз па Гогалю.

*- А мне падабаецца, што ў цябе вельмі сакавітая, натуральная беларуская мова...*

- А я ж - паляшук з Мікашэвіч, што на Брэстчыне! Праўда, у Расіі, у Яраслаўлі, я скончыў Вышэйшае тэатральнае вучылішча імя Фёдара Волкава, пачынальніка рускага тэатральнага мастацтва. Там людзі дзівіліся мілагучнасці беларускай мовы, з якой я знаёміў іх, дэкламуючы "Новую зямлю" Якуба Коласа, лірыку Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. Яны гаварылі, што дагэтуль ім здавалася, быццам беларуская мова - гэта няўдалы дыялект рускай, гістарычны нонсенс. Пачуўшы праўдзівую мелодыю беларускай мовы, адчуўшы яе іншасць, яны перасталі падсмейвацца з першакурсніка Авяр'янава, якому яшчэ бракавала чысціні расейскай мовы і які, замест таго, каб пільна ўдасканальваць яе, бегаў з кветкамі да будынка гімназіі, у якой вучыўся калісь беларус Максім Багдановіч.

*- А пасля школы пацягнула ўсё ж у родныя краі, на Беларусь?*

- У 1972 годзе, нягледзячы на запрашэнне застацца ў Расеі, я, маючы чырвоны дыплом, з якім можна было працаваць дзе хочаш, прыехаў у Менск, адразу ў тэатр Янкі Купалы, і быў прыняты мастацкай радай.

А што датычыць нашай мовы, дык я і цяпер люблю пазмагацца за яе чысціню, што нярaз даслоўна ірытуе маіх калег. Кажуць: чапляецца... Вось, напрыклад, чаму мы гаворым: haza, huzik, hilza, mazhi, mazhaunia? Таму што беларускай мове характэрна "г" фрыкатыўнае? А гэтага ж інакш нават і не вымавіш, як з выбухным "г": gaza, guzik, gilza, mazgi, mazgaunia. Ну, што ж, прынамсі ў кніжках можна пра гэта прачытаць, калі ўжо хтось не навучыўся ў хаце...

*- Памятаю, як гадоў пятнаццаць таму назад я запытала ў Лілі Давідовіч, вашай каляжанкі, якая запрасіла мяне на нейкі спектакль, чаму некаторыя артысты гавораць так, быццам гаварылі яны па-руску беларускай лексікай. Асабліва вылучаўся сярод іх адзін малады артыст. "А як жа яму гаварыць, - адказала яна, - калі ён рускі і толькі тры месяцы таму прыехаў з Масквы!" Ці надалей такое ў вас здараецца і ці такі акцёр мае права рэпрэзентаваць твар беларускай культуры, якім з'яўляецца найбольшы нацыянальны тэатр Беларусі?*

- Дарэчы, у хуткім часе мае адбыцца чарговае перайменаванне, і наш тэатр будзе называцца цяпер: Нацыянальны тэатр Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы, а гэта забавязвае. Страшнае тое, што сёння акцёр не мусіць ехаць аж з Масквы, каб гаварыць на беларускай мове, як на замежнай. На вялікі жаль, выхаванцы Акадэміі мастацтваў у Менску, за невялікім выключэннем, не валодаюць беларускай мовай у такой ступені, каб акцёр на сцэне быў адлюстраваннем беларускай душы. Гэта мне баліць і таму я бунтуюся.



*Юрый Авяр'янаў дэманструе нам у рэдакцыі сваю ролю куратара Землянікі з "Рэвізара", якую ён іграе па-польску.*

*- Я бачыла, як узбунтаваўся ты, калі пасля спектакля "Тутэйшыя" адбылася ў тэатры А. Вянгеркі імправізаваная сустрэча акцёраў з настаўнікамі і вучнямі Бельскага беларускага ліцэя. Спачатку ўсё было добра, пытанні задаваліся з абодвух бакоў, тычыліся як мастацтва, так і агульнапалітычнай сітуацыі і на Беларусі, і ў Польшчы. Але пасля, у гардэробе ўжо, калі дзеці апраналіся, адна з вашых вядучых актрыс прыспешыла калег "на чисто-великорусском языке" (якраз, як назваў яго Янка Купала ў сваіх "Тутэйшых"), бо пачынаўся чарговы банкет. Цябе панесла! Я разумею твой гнеў, тым больш, што чулі гэта дзеці, якім мы яшчэ прабуем нешта ўнушыць. Скажы, калі ласка, ці ў вашым тэатры гэта норма, што калі акцёр сыходзіць са сцэны ці заканчваецца нейкая афіцыйная ўрачыстасць, ён імгненна пераходзіць на рускую мову?*

- ?!... (У адказ Юрый, як у апошняй сцэне "Рэвізора", толькі развёў рукі). За невялікімі выключэннямі.

*- А ў "Ніве" журналісты ўжо пры заснаванні яе ў 1956 годзе вырашылі, што між сабой і сваімі людзьмі будуць гаварыць толькі па-беларуску. Ніхто да сёння не зламаў гэтай пастановы. І гэта дае эфекты. Думаю, што многае тут залежыць ад людзей.*

- Прыкра, што намаганні людзей, якія імкнуцца ў нас нешта направіць у гэтым кірунку, згараюць у лёце, не даходзяць да свядомасці зрусіфікаванага беларуса. Гэта, зразумела, вынік мінулых гадоў.

Я, вядома, не палітык, мне цяжка прагназаваць будучыню, але ў гэтым сэнсе я бадай што песіміст.

*- Палітык, ці не палітык, а скажы, што ўсё ж яшчэ чуваць у нашай Беларусі - сіняй-сіняй ад васількоў, блакіту неба і добрых вачэй беларусаў? Прынамсі так гэта ўяўляецца здалёк.*

- Калі я чытаю, што беларусы - добрыя, памяркоўныя, мяккія, лагодныя, талерантныя, мяне халера бярэ... Ёб вашу маць, ну што вы носіцеся з гэтай сваёй талерантнасцю?! Трэба ж дбаць і пра сябе, трэба зразумець, хто мы ёсць. І з гэтага вынікае і дзяржаўнасць, і сапраўдная культура, нацыянальная культура менавіта, ды і ўсё астатняе.

Калі заўважаеш у тым жа Менску, бо наш тэатр знаходзіцца якраз насупраць Вярхоўнага Савета, які месціцца ў былым будынку ЦК КПБ, дык калі ідзеш і бачыш у суверэннай дзяржаве на будынку вышэйшага органа вярхоўнай улады шыльду на расейскай мове, то адчуваеш, што мы надалей хварэем сіндромам "малодшага брата" і што паняцце суверэнітэту, незалежнасці ў нас вельмі расплыўчатае. А на шэрагу будынкаў дзяржаўных устаноў застаюцца старыя сімвалы дзяржавы, як гербы, зоркі. Калі ж узняць вочы ўверх каля Вярхоўнага Савета і глянуць на бел-чырвона-белы сцяг, то ўбачыш, што над ім лунае чырвоная зорка - замест шасціканцовага Еўфрасіннеўскага крыжа, як гэта запісана ў законе аб дзяржаўнай сімволіцы.

*- Няўжо ніхто не прабуе гэта выправіць?*

- Самае прыкрае ва ўсім гэтым якраз тое, што большасць людзей ані здзіўляецца, ані ўзрушаецца, ані абураецца. Відаць, яны яшчэ не адчуваюць сябе народам, нацыяй, якая мае права гаварыць аб сабе як аб еўрапейскай нацыі. І я цяпер разумею, што пракамуністычны Вярхоўны Савет на хвалі гэтай абыякавасці, "талерантнасці" можа прыняць нават найабсурднейшы закон аб дзяржаўнасці расейскай і беларускай моў. А гэта абазначала б канчатковую смерць беларускай мовы.

Вернемся яшчэ раз да нашай "талерантнасці". Чаму Беларусь зачыніла граніцу з Украінай, Літвой, Латвіяй, а праз граніцу з Расеяй усё высмоктваецца, як "у чорную дзірку"? Чаму там няма мытняў? Расея ж большая за Літву... Я зусім не антырусіст і не схільны замыкаць сябе, а гэта значыць і Беларусь, у новую жалезную заслону, але, шаноўнае спадарства, трэба ж і гонар мець!

*- Сардэчна дзякую за размову. Як жа велічаць цябе ў "Ніве" - народны артыст ці заслужаны?*

- Не народны і не заслужаны. Я - проста артыст.

**ФАТАГРАФАВАЛА АДА ЧАЧУГА**

# „ТУТЭЙШЫЯ" Ў БЕЛАСТОКУ

27 сакавіка, якраз у Міжнародны дзень тэатра, Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з Менска паказаў у Беластоку „Тутэйшых", п'есу свайго патрона. Дарэчы, той тыдзень выпаў даволі такі *беларускім* у Беластоку. 24 і 25 сакавіка прайшло святкаванне 75 угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, 25 сакавіка адкрылася ў фае беластоцкага тэатра выстаўка, прысвечаная Янку Купалу. 26 сакавіка „купалаўцы" паказалі пастаноўку „Дому на мяжы" Славаміра Мрожка (на беларускай мове), а наступнага дня — „Тутэйшых". *Тутэйшыя* беларусы тлумна ўдзельнічалі ва ўсіх гэтых мерапрыемствах. У Беластоку павеяла нечым аптымістычным, добрым для беларускага асяроддзя. Балазе ўсе гэтыя мерапрыемствы прайшлі на высокім узроўні.

„Тутэйшых" Янка Купала назваў „трагічна-смяшлівымі сцэнамі". Гэта варта ўвесь час памятаць, гледзячы даволі нечаканы сплаў народнай камедыі з народнай трагедыяй. Смех праз слёзы — так і можна акрэсліць той эфект, якога чакаў аўтар ад пастаноўкі сваіх „сцэнаў".

У БССРаўскія часы п'еса не ўваходзіла ні ў выданні выбраных ягоных твораў, ні ў так званы „поўны збор". Зразумела, чаму — калі б „тутэйшых" у п'есе вучыў розуму адно „заходні вучоны", тады — чорт яго бяры! — можна было б нейк выкручвацца. Але туды Купала ўсадзіў і „ўсходняга вучонага". Да таго — бальшавікоў патрактаваў нароўні з іншымі акупантамі Беларусі: палякамі і немцамі. Гэта было палітычнае блюзнерства, і Вялікі Брат сказаў забыцца пра „Тутэйшых". *Тутэйшыя* забыліся.

У п'есе Купалы сюжэтным стрыжнем з'яўляецца лёс Мікіты Зноска — кіданага ветрам гісторыі „тутэйшага" з памкненнямі да пасады асэсара. Гэтая роля — ключавая: эвентуальны правал акцёра адназначны з правалам цэлае пастаноўкі.

У Беластоку Мікіту выдатна сыграў Віктар Манаеў. Дзякуючы яму п'еса мела так неабходную дынаміку дзеяння на працягу звыш двухгадзіннай пастаноўкі. Адназначна станоўчыя героі „Тутэйшых", Янка і Алёнка, як наогул са станоўчымі персанажамі бывае, у Купалы атрымаліся задужа аднабаковымі, а замала — жывымі. Рэжысёр беластоцкай пастаноўкі, Мікалай Пінігін, пастараўся ажывіць гэтыя постаці, уставіўшы іх ў крыху іранічнае асвятленне. Часткова гэта яму ўдалося. Добра выканалі свае ролі Валеры Філатаў („прафесар" Спічыні), Уладзімір Кін-Камінскі (паляк, немец, бальшавік) і А. Сідарава (Наста Пабягунская). Публіка ўспрымала пастаноўку вельмі добра — тое, што Беласток, маўляў, не разумее гэтай элітарнай мужыцкай тутэйшай беларускай мовы — гэта міф! Запоўненая зала рэагавала на спектакль, як трэба, і ў тым месцы, дзе трэба. Гэта даказвае адну несумненную праўду: беларуская мова выжыве, калі будзе носьбітам істотнага зместу. Ніякая прапаганда ёй не дапаможа, калі ейнымі словамі будуць падаваць *мёртвы тэкст*.

Натуральна, хацелася б пабачыць больш беларускага рэпертуару на сцэне беластоцкага тэатра, і ў беларускай мове. „Тутэйшыя" ў Беластоку, здаецца, усвядомілі нам нешта значнае: гарадскому *тутэйшаму* беларусу — зусім не напляваць на беларускасць і ўсё, што вакол яе. Змяніліся адно абставіны, у якіх той беларускасці трэба функцыянаваць. Мы да гэтых абставін пакуль яшчэ не дараслі, далей атаясамліваючы наш нацыянальны лёс з мужыцкасцю; тым часам усё перавярнулася дагары нагамі. Беларускасць, менавіта, стаецца ў нас спакваля нечым элітарным, нечым, што чалавека набілітуе і духоўна ўзвышае па-над травараслы рэгіянальны запаведнік. У тым — промень надзеі на будучыню. „Купалаўцы" з Менска спрычынілі, што той промень заблішчаў крыху ясней.

**ЯН МАКСІМЮК**

# ПАЧАЛІ І Ў НАС РАБІЦЬ ТРАКТАРЫ

Неяк у беластоцкай „Gazecie Współczesnej" паявіўся быў загаловак: „Беларусь у Нарве". Няцяжка сабе ўявіць, якія думкі і асацыяцыі сіганулі праз неадну напалоханую галаву, пакуль чалавек дачытаўся, што аўтар не меў на ўвазе далучэння часткі Беласточчыны да ўсходняга суседа, а проста трактар з назвай „Беларусь".

Прадукцыю гэтых шырока вядомых у свеце трактароў распачала ў Нарве — у аб'ектах былога ПОМа (Дзяржаўная машынная база) — суполка „Пронар". Трактары прывозяць у частках з Менскага трактарнага завода, затым тут, на спецыяльнай мантажнай лініі, складаюць. Урачыстае адкрыццё гэтай лініі мела месца 2 красавіка.

На адкрыцці прысутнічалі, між іншым: пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько, віцэ-міністр па справах гандлю з замежжам РБ Генадзь Наркевіч, дарадчык міністра сельскай гаспадаркі Польшчы Францішак Васяк, галоўны інжынер МТЗ Юры Кірынюк, мясцовыя гмінныя ўлады з войтам Янам Тапалянскім і старшынёю рады Сяргеем Кучынскім. Сярод гасцей быў прадстаўнік пасольства Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, куды таксама збіраецца прадаваць сваю прадукцыю „Пронар".

Як заўсёды ў такіх выпадках, шмат было журналістаў. Дзеля іх, пасля цырымоніі адкрыцця мантажнай лініі і азнаямлення з прадпрыемствам, наладжаная была прэс-канферэнцыя. На жаль, пад час яе так і не паявілася найбольш цікавая інфармацыя — колькі каштавала гэтая мантажная лінія. Галоўны скарбнік фірмы Ян Чэрнякевіч сказаў: „грошы, як вада — ім няма ні пачатку, ні канца". Кіраўнік суполкі Сяргей Мартынюк прызнаўся, што на гэту мэту пайшлі ўсе грошы, якія яны зарабілі раней на гандлі. „Але я не лічу, што гэта ўтопленыя грошы, — гаварыў спадар Марытнюк, — мы сваё рашэнне поўнасцю прадумалі".

Колькі гэта будзе „ўсе грошы", цяжка сказаць, але, відаць, нямала. Суполка „Пронар" узнікла ў 1988 годзе і з тае пары ўсё развівалася, пашыраючы абсяг сваёй дзейнасці: адкрывала крамы ў Нараўскай гміне і па-за ёю, пачала гандляваць з Беларуссю і, урэшце, перайшла на прадукцыю. Цяпер з'яўляецца яна адным з болей сур'ёзных замежных партнёраў найбольшай фабрыкі ў Беларусі (28 тысяч працаўнікоў). У такі сам спосаб беларускія трактары мантуюцца яшчэ ў Партугаліі.

Як пачалося так плённае супрацоўніцтва з МТЗ? „У Польшчы быў вялікі клопат з продажам сельскагаспадарчай прадукцыі — паясняў Сяргей Мартынюк, — а на ўсходзе рынак ніхто не мог прабіцца. Мы патрапілі ўвайсці на рынак Беларусі, сталі там верагодным партнёрам. МТЗ заўважыў нас і з таго часу супрацоўніцтва між намі ўсё развіваецца. Цяпер вось, пачынаем мантаваць трактары".

Між „Пронарам" і МТЗ падпісаная дамова на 10 гадоў. Кожны год, мінімум, з мантажнай лініі павінна сыходзіць тысяча трактароў. А калі будзе збыт, дык ёсць магчымасць павялічыць прадукцыю.

Пры мантажы працуе 21 асоба, разам з кіраўніком (у цэлай суполцы — 110-120). Зарабляюць яны па 3-4 мільёны злотых, але бываюць зарплаты і вышэйшыя. „Толькі за канкрэтную працу, бо за самую прысутнасць грошай у нас ніхто не пабачыць" — кажа спадар Мартынюк. Адзін з варшаўскіх журналістаў падлічыў хутка, што гэта сярэдняя краёвая плата. У нашым ваяводстве, думаю, многія хацелі б мець такую „сярэднюю краёвую".

Як удалося Сяргею Мартынюку ў час агульнай рэцэсіі, калі нідзе нікому не аплачваецца прадукаваць, адчыніць фабрыку, застаецца папраўдзе яго і ягоных супрацоўнікаў таямніцай. Дарэчы, усе яны падкрэслівалі, што каб сфіналізаваць гэтую справу, давялося ўкласці не менш за грошы высілкаў і патраціць шмат нерваў.

Сёй-той з гасцей намякнуў, што лепш было б прадаваць трактары з „Урсуса", чымсьці беларускія. Але ж той „Урсус" сам сабе вінаваты. Сёння на поспех можа разлічваць толькі той, у каго ёсць галава на шыі. Як у Сяргея Мартынюка.

Адкрыццё мантажнай лініі трактароў закончылася багатым пачастункам, які ўпрыгожвалі са сцэны спевакі ды музыканты. Зоркай сярод іх была — як жа іначай! — наша бельская „Маланка". Калі кагосьці абурае гасціна з музыкай у пост, дык на апраўданне гаспадароў сведчу: закускі былі ў большасці посныя. І вельмі смачныя!

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота Здзіслава Лянкевіча**



*На "пронараўскім" пляцы стаяць, злева направа: Сяргей Мартынюк, Уладзімір Сянько, Генадзь Наркевіч, Юры Кірынюк.*

Навеянае пабачаным

## ФІНАЛЬНЫ АГЛЯД

Прыснілася мне, што ў гэтым годзе ў фінальным аглядзе беларускай песні прымала ўдзел уся Беласточчына: ад Мельніка да Грабянёў і асабліва многа было моладзі.

**Алесь**

Алесь! Прыснілася Табе амаль уся праўда. Амаль уся, але не ўся. Калі б не лічыць Грабянёў, то на аглядзе не было цэлай паўночнай часткі Беласточчыны, аддзеленай мясцовасцямі Агароднікі і Гарадок. Не было таксама нікога з гмін Тыкоцін, Монькі і Міхалова. Здзіўляе Цябе напэўна, што не прыехаў ніхто з Міхалоўскай гміны: там жа такія вялікія беларускія вёскі як Ялоўка, Шымкі, Тапаляны ці Новая Воля. Ну і найважнейшая з іх — Бандары. Здаецца Табе, пэўна, што з гэтай апошняй вёскі павінен усё-такі прыехаць хтосьці ў Беласток на „агляд". Але чаму не прыехаў? Гэта проста. У Бандары, сваю родную вёску, прыязджае Вялікі Чалавек і гутарыць з нармальнымі людзьмі. Занятыя гутаркамі з Вялікім, жыхары замест спяваць песні, вучаць Яго капіталізму і сацыялізму. Гэта таксама патрэбнае нашаму грамадству. Добра,што не гутарыць ён з усімі: моладзь можа вырвацца ў Беласток і там сабе паспяваць.

**АНДРОН**

## УГАСЦІЛА

У адной вёсцы жыла адзінокая вельмі скупая жанчына. Наймала яна людзей працаваць у сябе на гаспадарцы, але не давала ім многа зарабіць, і людзі кінулі ёй дапамагаць. Сваякі таксамаміналі яе хату.

Аднойчы сустрэла яна сваячку Маньку, якая прыехала да іх у вёску на прыхадское свята.

- Манечка, - папрасіла сваячку, - ты заўсёды з царквы ідзеш да брата ў суседнюю вёску. Гэта ж табе так далёка ісці! Давай, пойдзем лепш да мяне?..

Манька ведала вялікае скнарства сваячкі, але рашыла пайсці да яе ў госці.

Пасадзіла гаспадыня госцю за стол і давай распытваць. Сядзела Манька, галодная, аж у кішках ёй вурчала. Урэшце папрасіла:

- Дай ты мне кавалачак пірага з макам, есці штосьць хочацца...

- Не маю. Не было з чаго спячы пірог, а ўсё малако аддала ў злеўню.

- То ўлі хоць супу крышку...

- Ды няма... Раніцою ўчарашні з'ела, а сёння, вось, не было калі. Ну, няма нічога.

- То дай табе, Божа, ніколі не меці нічога, - узлавалася галодная сваячка.

- Ага, то такія ў цябе для мяне пажаданні, а я ж цябе ў сваю хату ў госці запрасіла! Ну і госця!

**АЎРОРА**





ЧАСТКА XXXVII

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Сёння прывяду выказванні другой студэнткі, якая актуальна вучыцца на пятым курсе. Гэтае выказванне радыкальна адрозніваецца ад голасу студэнта, які прывёў я тыдзень таму назад:

„Мне здаецца, што ў нас людзям жывецца усё горш і горш. Гавару гэта на падставе жыцця сваіх бацькоў. Гавораць яны, што трава і збожжа ў іх гаспадарцы і ў гаспадарцы суседзяў усё горшыя. А гэта таму, што сяляне купляюць сёння на дзве трэція штучных угнаенняў меней, чым куплялі калісьці і таму ўсё вельмі слаба расце. Калісьці то мне бацькі давалі па мільёне, а то і па два на месяц і нічога не гаварылі, а сягодня то бачу, што нават трыста тысяч даюць з цяжкасцю. А калі была я на першым курсе, а гэта было пры Ракоўскім і Ярузельскім, то атрымлівала 900000 злотых стыпендыі. То тады мне хапала на ўсё. За акадэмік плаціла ўсяго некалькі дзесяткаў тысяч. Ежа была вельмі танная, а вопратка не такая як сёння дарагая. Параўноўваючы тыя 900000 злотых з сялянскімі грашамі, то гэта так як бы я сягоння атрымлівала каля двух з паловай мільёна злотых, так шуганула інфляцыя. А ведаеце, якую я сягоння маю стыпендыю? Усяго чатыраста тысяч злотых. О так палепшала маё жыццё! Затое за акдэмік плачу 300 тысяч і застаецца мне сто тысяч. Ну, дык як мне жыць? За сто тысяч маю пракарміцца і апрануцца? А я ўжо вам сказала, што бацькі могуць даць усё менш. Ну, неяк даю сабе рады з горам папалам. Бегаю, шукаю заробку, але знайсці яго ўсё цяжэй. Але гэта ненайгоршая бяда. Бяда ўся ў тым, што праўдападобна, калі закончу навуку, не знайду працы. А нават калі б і знайшла, то болей як два мільёны зарабляць не буду. Ну, то падумайце, як буду жыць. А найгоршае то тое, што напэўна не атрымаю кватэры. А калі кватэру купіць, дык трэба мець прыблізна 400-500 мільёнаў злотых. Я думаю, што такой сумы не адлажу на працягу ўсяго свайго жыцця. Ну дык скажыце, як я магу апрабаваць тое, што сёння робіцца ў нашай краіне. Мая старэйшая на восем гадоў сяstра закончыла студыя сем гадоў таму назад. Атрымала някепскую працу. Праз пяць гадоў выплаціла і атрымала кватэру, выйшла замуж і жыве па-чалавечы. Калі чаго баіцца, то толькі беспрацоўя. А я баюся ўсяго. Часам як пачну думаць пра сваю будучыню ноччу, дык не магу заснуць аж да раніцы. А ведаеце, што робіцца ў акадэміку? Частка студэнтаў бярэ ўдзел у спекуляцыі і розных камбінацыях. Носяць у кішэнях без кашалькоў па пяцьдзесят, а то і болей мільёнаў. Іграюць па цэлых начах у карты. Праігрываюць дзесяткі мільёнаў за адну ноч і не пераймаюцца гэтым. Аб занятках некаторых студэнтак гаварыць не буду, бо сорам.

Я ніколі не займалася палітыкай і не была звязана з ніякай партыяй. Але калі параўноўваю тое, што было і тое, што ёсць у жыцці маіх бацькоў і ў маім жыцці, дык бачу, што робіцца ўсё горш і горш. Я не хацела б ехаць ні за якую граніцу. Прагнула б пражыць усё жыццё тут, дзе я нарадзілася, але верце мне, баюся будучыні. Проста здаецца мне, што магу згінуць. А калі пачую ў тэлевізіі ці па радыё інфармацыі аб тым, што ў Польшчы многа людзей, а ў тым і дзяцей, жыве ўпрогаладзь, то мне сціскаецца сэрца. Не ведаю, што будзе."

Вось два, як жа розныя галасы, аб сёняшнім жыцці. Хто мае рацыю? На гэтае пытанне адкажыце, чытачы, самі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## КЛЕЦК

Жыў на нашай зямлі, даўным-даўно гэта было, люты князь Клецак. Жорстка распраўляўся ён з людам паспалітым, са сваімі слугамі і дружыннікамі, нікога не мілаваў, нікому нічога не дараваў, нават погляд смелы і той мог абярнуцца чалавеку смяротным прысудам. Чуць што, а князь ужо крычыць нелюдскім голасам верным цівунам:

- У клецьяго! На ваду і на цэп! У клець!

Схопяць бедалагу і калі не закатуюць да смерці, то ўсё роўна ў падзямеллі згнояць. Не бачыць яму болей роднай сям'і і ласкавага сонейка. Жыхары з наваколля баяліся нават ноччу выходзіць са сваіх хацін, каб не натрапіць на гэтага вылюдка. Яны і празвалі яго Клецакам ад таго жахлівага слова "клець". Ужо сівым стаў князь, а нораў не перайначвае. Наадварот, яшчэ больш лютаваць пачаў. Людзі і падсцерагалі яго ў засадах седзячы, ды дарэмна - з вялікай і моцнай аховай ён ездзіў; і да неба звярталіся, але і тое да сябе браць гэткую пачвару не жадала. А Клецак лютаваў. Нічога і нікога не баяўся, бо ведаў, што ніхто яго не пакарае... Але нарэшце прыйшло і на яго пакаранне смяротнае. І вось як гэта здарылася.

Вырашыў Клецак жаніцца, а дзяўчыну сабе выбраў з беднай сям'і. Адна яна была ў бацькоў ды і кахала простага сялянскага хлопца. Але князь ні на што не паглядзеў, забраў яе ў свой палац і загадаў:

- Праз два дні вяселле наша, выберы вопратку найпрыгажэйшую і падрыхтуйся!..

- Не пайду я за цябе, князь, - горда мовіла дзяўчына.

- Пойдзеш!

- Не! Лепей у сырую зямлю, чым за цябе, кат!

- Ты што, не ведаеш маёй сілы і магутнасці? Ты не ведаеш, што я ўсё магу? Ды я нагою тупну, і зямля расступіцца! - зароў Клецак і што сілы бухнуў нагою ў падлогу. І дзіва! Дзяўчына ператварылася ў невялічкую птушачку і паляцела, а князь каменем пайшоў на дно ямы, што раптам утварылася. Да раніцы і палац ягоны зямля праглынула...

Яшчэ ў мінулым стагоддзі людзі яму глыбокую на тым месцы паказвалі і называлі яе Клецакаваю. З цягам часу тут горад стаў, таксама Клецак, а потым ужо Клецк.

АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ



*Веранічка з мамай.* Фота М. Лукшы

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК І ПАПУГАЙЧЫК

Неяк ноччу пад'ела мышка Пік-Пік і вырашыла падрамаць. Але нейкі грукат пабудзіў яе. Мышка прыслухалася: нехта настойліва стукаў у сценку.

- Што за нахабства! - абурылася мышка. - Сярод ночы падымаць такі шум!

Стукат даносіўся з суседняй кватэры, і Пік-Пік вырашыла схадзіць туды. Шчылін у падлозе хапала, і хутка разведчыца сядзела на дыване ў незнаёмым пакоі і разглядала парушальніка цішыні. Гэта была невядомая прыгожая птушка, вельмі стракатая, з моцнай крывой дзюбай. Птушка сядзела ў клетцы, што вісела на сцяне, і з зайздроснай энергіяй гэтую сцяну дзюбала.

- Ты што гэта робіш? - падала голас мышка. - Ты ведаеш, што цяпер усе спяць?

Птушка перастала дзяўбаць, прыглядзелася і расчараваным голасам сказала:

- О, гэта ўсяго толькі мыш... А я спадзяваўся, што адгукнецца нарэшце які-небудзь інтэлігентны звер...

Пачуўшы такія зняважлівыя словы, мышка ледзь не лопнула ад абурэння. Гэта яна - не інтэлігентная?!

- Ды хто ты сам такі?

- Я - экзатычная птушка папугай. Я вялікія грошы каштую. - І папугай задумліва ўзяў лапкай круглую шакаладную цукерку і, нібыта грэбуючы, з'еў. - Вось гаспадары начаваць на дачы засталіся. А мне суразмоўцы трэба... А я адзін не прывучаны...

Калі мышка Пік-Пік убачыла, што папугай есць шакаладныя цукеркі, ды яшчэ без ахвоты, яна адразу вырашыла змяніць гаворку і загаварыла лагодным голасам:

- Шаноўны папугай, я вельмі рада з табой пазнаёміцца. Я сама люблю пагаварыць з разумнымі істотамі. Між іншым, я з Дамавікам сябрую, а гаспадары мае - паэты.

- І чым жа яны цябе кормяць? - папытаўся папугай і пракаўтнуў яшчэ адну цукерку. Мышка аблізнулася і пачала выдумляць:

- О, самым смачным. У мяне заўсёды процьма розных цукерак, арэхаў у шакаладзе, а бананы дык проста не ведаю, куды падзець.

- Няўжо твае цукеркі смачнейшыя за мае? - пацікавіўся папугай і з'еў яшчэ адну цукерку.

- Ты такіх ніколі не еў! - запэўніла мышка. - Вось... калі хочаш... дай мне зараз пару сваіх цукерак, а заўтра прылятай да мяне, і еш мае, колькі хочаш... - А сама між тым думае: "Усё роўна ён з клеткі не выберацца".

Папугай падумаў, падумаў і скінуў мышцы дзве цукеркачкі. Пік-Пік імгненна схапіла іх і ўцякла дадому. Цукеркі аказаліся незвычайна смачнымі. Мышка з'ела іх і спакойна заснула, пакінуўшы ўсякія думкі аб новым знаёмцы.

- Мама, - закрычала Веранічка. - Да нас папугай прыляцеў! Хутчэй адчыні фортку, а то ён змерзне!

Пачуўшы гэта, мышка схавалася ў норку. А папугай сеў на стол і закрычаў:

- Цукер-ркі! Цукер-ркі! Ба-на-ны! Ба-на-ны!

Мама і Веранічка здзівіліся.

- Ён, напэўна, згубіўся, - сказала Мама. - Даўно не еў.

І яна пайшла на кухню і прынесла цукерак і яблык.

- Што?! - закрычаў папугай. - Каб я еў нейкія карамелі? Лядзенчыкі? Арэхі ў шакаладзе давайце!

- Адкуль мы табе арэхі ў шакаладзе возьмем? - раззлавалася Мама. - Еш, што даюць!

- Падман! - залямантаваў папугай. - Нейкая шэрая мыш падманула такую разумную істоту, як я! - і папугай пачаў сварыцца і трашчаць крывой дзюбай: - Галякі! Жабрацтва!

Мышка Пік-Пік ледзь не плакала ад сораму. На шчасце, у дзверы пазванілі.

- Ці не залятаў да вас наш папугай? - пачуўся ў калідоры голас суседкі.

- Я тут! Я тут! - закрычаў папугай і кінуўся да сваёй гаспадыні. Суседка забрала яго, і больш мышка Пік-Пік ніколі з ім не сустракалася.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

## Вершы Віктара Шведа

### АДВАКАТ

У судзе малы Ягор
Сустракае ў чорным пана.
- Чаму мае дамскі ўбор? -
Запытаў ён нечакана.

- Сынок, гэта адвакат,
Апрануў сваю ён тогу,
Цяпер будзе акурат
Гаварыць ён вельмі многа.

### ДУРНІЛА

- Не сталееш ты ніяк,
Заняты дурнотай.
Дзе запэцкаўся ты так?
- Упаў я ў балота.

- Новыя штаны надзеў,
Змарнаваў за суткі.
- Зняць іх, мама, не паспеў,
Падаў вельмі хутка.

### ІГРАЕ БЫЦЦАМ ПАГАНІНІ

Да музыканта вядзе мама
Сыночка здольнага, Адама.
Адказу там яна шукае,
Як сын на піяніна іграе?

- Іграе ён на піяніна
Быццам калісьці Паганіні.
- Не піяніст ён, - кажа мама.
- Сынок не будзе ім таксама.

### ЧАМУ АРСЕНЬ НЕ ГАВОРЫЦЬ „ДОБРЫ ДЗЕНЬ"?

Знерваваўся дзядзька Бора:
- Чаму ты, Арсень,
Аніколі не говорыш
Людзям "добры дзень"?

- Я ж у вечаровай школе
Вучуся, павер,
Таму гэтых слоў ніколі
Не кажу цяпер.

### СТАЯЎ НА БАНКНОЦЕ

Настаўнік вучня запытаў:
- Чаму спазніўся, Янка?
- Шукаць я грошы памагаў
Жанчыне на паўстанку.

- Дык добра, што ты дапамог,
Хвала табе, мой коцік.
- Вось я не мог падняць і ног,
Стаяў на тым банкноце.

### ЦЯЖКА ПАПАСЦІ

- Калі хуліганскі Жэня
Будзе зноў кідаць каменнем,
Уцякай хутчэй дахаты,
З ім расправіцца твой тата.

- Я, татулька, добра знаю,
Ты яго не пакараеш,
Ён заўсёды мае шчасце,
Цяжка у яго папасці!

### У ДОМЕ АДПАЧЫНКУ

У школе запыталіся дзяўчынку:
- Як жылося ў доме адпачынку?

Адказала ім на гэта Оля:
- Там прыблізна, як у нашай школе.

Я сядзела са сваёю мрояй,
Праз акно выглядвала пакоя,

Толькі не чакала на званок,
Што заканчваў кожненькі урок,

Ды чакала заўсягды, як след,
На званок, што клікаў на абед.

### КАБ САБАКА МОЙ МОГ ГАВАРЫЦЬ

- Каб я мог нейк толькі навучыць
Нашага сабаку гаварыць,
Дык прадаўся б дасканала ён
За зялёных долараў мільён.

- Хто ж цябе б узнагародзіў так?
- Ды вытворца ежы для сабак.
Ён у тэлебачанні панам
Быў бы неабходны для рэклам.

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ (5)

Часцей за ўсё канфлікты ўзнікаюць з-за таго, што пункт гледжання бацькоў на ступень тваёй дарослацсі некалькі адрозніваецца ад таго, якога прытрымліваешся ты. Ці не праўда? То бацькам не зусім падабаюцца твае сябры, якіх ты выбраў сам, то яны незадаволены тым, як праводзіш вольны час, то яны забараняюць табе сустракацца з дзяўчынай. Усё гэта выклікае ў цябе ўнутраны пратэст. Табе здаецца, што яны проста ўшчамляюць цябе ў правах.

Чаго ж асцерагаюцца твае бацька і маці? Чаму яны так часта, як табе здаецца, перастрахоўваюцца? Чаму імкнуцца як мага часцей цябе пракантраляваць?

Вось пісьмо: "Калі чалавек набывае права на самастойнасць? Не ведаю, можа, я не разумею, што такое самастойнасць, але ўяўляю гэта так: цяпер я быццам бы атрымаў права распараджацца сваім часам. Раней я мог хадзіць на трэніроўкі, гуляць са сваімі сябрамі, але гэта было ў школе. Зараз я вучуся ў тэхнікуме, і тут пачаліся розныя высочванні, праверкі, роспыты. Не магу свабодна і кроку ступіць. Літаральна кожны крок правяраецца бацькамі: калі я затрымаўся ў школе або ў сябра, я павінен пераказаць усе свае дзеянні "ад" і "да" бацьку, калі ж не зраблю гэтага, то ён сам пачынае дазнавацца (пазвоніць бацькам майго таварыша, каб спытаць, ці праўда, што мы разам з ім займаліся падрыхтоўкай урокаў, маім сябрам і г. д.).

Вядома, пасля гэтага ніхто не хоча са мной сябраваць. Паступова я адышоў ад сваіх сяброў, нават не магу паехаць на дзень нараджэння таму, што павінен быць дома ў 11 гадзін вечара. А хто ж у гэты час разыходзіцца?"

Прачытаўшы такое пісьмо, хочацца адразу ж узяцца за пяро і напісаць гнеўнае пісьмо тыранам-бацькам, якія не даюць развярнуцца сваім дзецям, у поўнай меры здольным адказваць за свае ўчынкі. Але стоп... Ці здольны? Калі так, то чаму ж бацькі, якім, здавалася б, больш зручна скінуць з плеч ношу-адказнасць, усё-такі забараняюць, усё-такі абмяжоўваюць, усё-такі стаяць на сваім? А справа ў тым, што дарослыя разумеюць самастойнасць зусім інакш. Не ў тым сэнсе, што кожны мае права бразнуць дзвярамі і пайсці, не сказаўшы нікому, калі вернешся, ці што можна прыйсці каля 12 вечара, а то і пазней, і на пытанне "Дзе ты быў?" адказаць: "Ды так, у адным месцы". Гэта не самастойнасць, а самавольства і безадказнасць.

Напэўна, ты тлумачыш такія паводзіны бацькоў тым, што ў іх, быццам бы, застарэлыя погляды на сучасную моладзь. А можа ты лічыш, што гэта векавечны і непазбежны канфлікт бацькоў і дзяцей? Але згадзіся, такіх канфліктаў і непаразуменняў было б значна менш, калі б бацькі былі ўпэўнены, што іх дзеці - сапраўды дарослыя людзі і могуць поўнасцю адказваць за свае дзеянні.

Вядома, у 15-16 год хочацца сустракацца з сябрамі, разам праводзіць вечары, хадзіць у кіно, на дыскатэку. У гэтым узросце ў цябе, як правіла, з'яўляецца самы блізкі друг, без якога цяжка пражыць нават дзень. Але навошта рабіць з гэтага тайну? Навошта пакідаць бацькоў у поўным няведанні адносна таго, дзе і з кім ты праводзіш вольны час? Ты ж для бацькоў - самы блізкі і дарагі чалавек, і ты павінен разумець іх хваляванне за цябе, за твой лёс. І зусім не ганебна для цябе, калі ты скажаш дома: "Сёння мы збіраемся ў Колі - пасядзім, пагаворым, патанцуем, да дзевяці гадзін вярнуся". Альбо дачка скажа: "Мама, я сёння сустракаюся з Валерай. Сходзім у кіно, а можа, проста так пагуляем. Не хвалюйцеся, ён мяне правядзе. Пастараюся прыйсці своечасова". Ну, а калі паход у кіно ці сустрэча сяброў загадзя не намячаліся? Пазвані, папярэдзь. Няма тэлефона - пазвані суседзям. Няма тэлефона і ў іх - ну, што ж, прыйдзецца папрасіць прабачэння ў сяброў і бегчы дадому. Спакой бацькоў даражэй за ўсё.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В. БАЛЦЭВІЧ,**
**Л. ГАРБАЦЕНКАВА**

## К А Л Я Н Д А Р

Слова "каляндар" узнікла ад лацінскага calendarium - у літаральным перакладзе - даўгавая кніга. У Старажытным Рыме першыя дні месяца называлі календамі - днямі выплаты працэнтаў доўгу і адзначалі гэта ў кнігах, якія таксама спачатку называлі календамі.

Па змене дня ноччу старажытныя людзі вызначалі працяглацсь сутак, а па фазах месяца - тыдня, па тэрміну абыходу Месяца вакол Зямлі - працяглацсь месяца, па часу, за які Зямля абыходзіць вакол Сонца, - года. Аднак ніхто дакладна не ведаў працяглацсі сонечнага (астранамічнага) года. Па месяцаваму календару ён складаў 354 дні, а па сонечнаму - 365 дзён. Гэтую таямніцу разгадалі старажытныя егіпцяне ў выніку назірання за разлівамі Ніла.

Асновы егіпецкага сонечнага календара выкарысталі і рымляне ў 46 годзе да нашай эры для рэформы свайго складанага месяцава-сонечнага календара. Рэформа календара праведзена астраномам Сазігенам па патрабаванню Юлія Цэзара. Таму і каляндар атрымаў назву "Юліянскі". Працяглацсь года ўстанавілі 365 дзён. Аднак тады ўжо астраномы ведалі, што яна складае 365 сутак і 6 гадзін.

Для карэкцыі перыяду надыходу вясенняга раўнадзенства (21-22 сакавіка) рашылі адзін раз у чатыры гады, паміж 23 і 24 лютага, дабаўляць адны суткі. У сувязі з тым, што да першых дзён наступнага месяца (календ сакавіка) заставалася па тагачаснаму рымскаму паняццю шэсць ("секстус") дзён, устаўны дзень назвалі "другі шосты" ("бісекстус"). Гэта і дало назву павялічанаму на дзень году - высакосны. Але, як высветлілася пазней, астранамічны год працягвацца 365 дзён, 5 гадзін, 48 хвілін і 5 секунд. Юліянскі календарны год на 11 хвілін 14 секунд даўжэй за астранамічны, а таму і адстае ад яго.

Да канца 16-га стагоддзя адставанне дасягнула 10 сутак, а дата вясенняга раўнадзенства змясцілася з 21 на 11 сакавіка. Каб вярнуць гэтую дату на месца, у 1582 годзе па распараджэнню папы рымскага Грыгорыя XIII дзень пасля 4 кастрычніка 1582 года абвясцілі 15, а не 5 кастрычніка.

Каб ліквідаваць недакладнасць Юліянскага календара, па Грыгарыянскаму з кожных 400 гадоў выключаюць 3 высакосныя дні ў тых гадах канца стагоддзя, першыя дзве лічбы якіх не дзеляцца на 4. Былі невысакоснымі 1700, 1800 і 1900 гады, а 2000 год будзе высакосным.

Праект рэформы Юліянскага календара распрацаваў італьянскі ўрач, матэматык і астраном Алаізій Ліліо. Называюць каляндар Грыгарыянскім, таму што рэформу яго ажыццявіў папа рымскі Грыгорый XIII.

Ён лічыцца календаром новага, а Юліянскі каляндар - старога стылю. Адставанне Юліянскага календара ад Грыгарыянскага ў пачатку 20 стагоддзя складала 13 сутак. На такую колькасць дзён і адрозніваюцца даты гадавых праваслаўных свят ад каталіцкіх.

Але і гэты каляндар нязручны. Таму ў ААН працуе спецыяльная камісія па яго ўдасканальванню.

**А. МАКАРЭВІЧ**



## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астрончыку!

Гэтым разам прыснўся мне мой бацька, які памёр 20 гадоў таму. Я ўваходжу ў незнаёмы дом, а там мой бацька сядзіць. Калі я загаварыў, гляну ў мой бок. Я пазнаў, што сінія вочы п'яна глядзяць на мяне. Ён сказаў: „То што, вып'ем!" І прыносіць літр гарэлкі з куфра. Я кажу, што не п'ю ўжо гарэлкі і ажаніўся. „Нічога, вып'ем, ужо я пачаў выпіваць гарэлку. Маю цяпер высокую пенсію, дабавілі. Сядай, сынок, па чарцы не зашкодзіць!" Аднак, мы гэтай гарэлкі не выпілі. Што абазначае гэты сон, Астроне?! Праз столькі гадоў прыснўся мне бацька першы раз. Ён ніколі не піў гарэлкі, а я мачыўся ў гарэлцы.

**А. Г.**

Сніцца мне мая мама-нябожчыца. Ляжыць у пасцелі ў начной кашулі. Кашуля прыгожая, у ружовыя кветачкі. А мама такая вялікая (у сапраўднасці яна невялікая была). Прыгожа выглядае. І тут жа з'яўляецца мой муж-нябожчык. Апрануты ў вельмі прыгожы карычневы касцюм. Мы з ім танцуем. Нічога не гаворым — танцуем моўчкі. Я думаю: о, цяпер ён так прыгожа выглядае, што і пайсці кудысьці маглі б.

**Аня**

А. Г.! Ты будзеш мець нейкія непрыемнасці; выкліканы яны будуць тваімі неразумнымі сябрамі. Бацьку бачыць здаровым — будзе клопат. Калі хтосьці п'е ці хоча піць гарэлку — значыць, ёсць у цябе нейкі дурны сябра. Самому быць п'яным — страта, паніжэнне і беднасць.

Аня! Чакае цябе нейкая дарэмная праца. Аб гэтым сведчыць той твой танец.

**АСТРОН**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### ПУДЫНГ З ЧОРНАГА ХЛЕБА

**Прадукты:**
1/2 кг чорнага хлеба, 5 жаўткоў, 2 лыжкі масла, 4 лыжкі цукру, 2 лыжкі змеленых чорных сухароў, 2 лыжкі сцертага на тарцы шакаладу, 1 лыжка стоўчаных арэхаў, 40 дэкаў збітай смятанкі, 1 шклянка малака, разынкі, адцэджаныя ягады з варэння, сок, які застаўся.

Хлеб (можа быць чэрствы) нарэзаць тонкімі кромкамі і запячы грэнкі. Масла сцерці дабяла з жаўткамі (жаўткі дадаваць паступова). Тады дадаць цукар, змелены хлеб, шакалад, разынкі, арэхі, збітую смятанку, ягады.

Дно і бакі формы, змазанай тлушчам і пасыпанай цукрам, аблажыць грэнкамі, спырснуць малаком і пасыпаць цукрам. Сярэдзіну напоўніць падрыхтаванай масай, спырснуць ромам. Уставіць форму ў большы посуд з вадой, памясціць яго ў гарачую духоўку. Так запякаць каля гадзіны. Калі пудынг стане густы, выняць яго з духоўкі, пераклaсці на талерку, паліць сокам з варэння.

**ГАСПАДЫНЯ**

*ЗЁЛКІ-ЛЕКІ*

# ЧОРНАЯ РЭДЗЬКА ЛЕЧЫЦЬ ПЕЧАНЬ І СТРАЎНІК

Чорная рэдзька *(Raphanus sativus* L. *varietas niger Kerner)* — гэта адна- або двухгадовая расліна, якая паходзіць з Азіі, але сёння паўсюдна вырошчваецца ў многіх краінах, у тым ліку і ў Польшчы. Гэта расліна халоднага клімату. Ва ўмовах доўгага і цёплага дня яна хутка пачынае цвісці і корань яе буцвее.

Чорная рэдзька расце да вышыні 20-100 см. Вырошчваюць яе не толькі як гароднiну, але і ў лячэбных мэтах. Сцябло гэтай расліны ўнізе пустое, часамі з цвёрдым валоссем (як і лісце). Лісце ліраватае, найвышэйшае — не падзеленa. Кветкі прамяністыя, ліловыя ці белыя. Карэнні мясістыя.

Для лячэбных мэт патрэбна не лісце, а толькі карэнні. Збіраюць іх свежыя, вырасшыя і спелыя (*Radix raphani nigri recens*).

Корань чорнай рэдзькі з'яўляецца моцным раслінным жоўцетворчым сродкам. Адначасова ён актывізуе рухі жоўцевых каналаў і дапамагае жоўці адплываць у дванаццаціперсную кішку. Вяртае арганізму натуральны рух кішак і павялічвае колькасць страўнікавага соку, выклікае паляпшэнне працэсу прысвойвання ежы.

Карэнні чорнай рэдзькі выказваюць моцнае супрацьбактэрыйнае дзеянне ў страўнікавым тракце, а нават у дыхальных і мачавых шляхах. У гэтых адносінах корань чорнай рэдзькі ўплывае значна лагадней, чым насенне чорнай гарчыцы, нягледзячы на іх падобны хімічны склад. Прэпараты з чорнай рэдзькі могуць прымаць, такім чынам, дзеці, моладзь і пажылыя людзі.

Сок з чорнай рэдзькі вельмі багаты вітамінам С, цукрамі і мінеральнымі солямі. Лічыцца сродкам рэмінералізуючым і агульнаўзмацняючым. Нельга, аднак, прымаць сок з чорнай рэдзькі нашча і ў зандта вялікай колькасці, паколькі можа гэта выклікаць падражненне слізістай абалонкі страўніка, ваніты.

Прэпараты з карэнняў чорнай рэдзькі прымяняюць пры працяглых, лагодных запальных станах і пашкоджаннях печані, пры недастатковай колькасці жоўці, яе застоі і схільнасці да каменняў у жоўцевым пузыры. Апрача таго — пры катары страўніка і дванаццаціперснай кішкі, пры балючых уздуваннях жывата і нерэгулярных апаражненнях. Экстракт з карэнняў чорнай рэдзькі ўваходзіць у склад прэпаратаў *„Raphacholin"* і *„Raphalamid"*, якія выпускае „Herbapol".

**Свежы корань чорнай рэдзькі**

Рэкамендуецца ўжываць яго ў выглядзе салаты, у колькасці 50-150 г у дзень пры лагодных запальных станах печані.

**Сок са свежага кораня чорнай рэдзькі**

Карэнні абабраць, парэзаць на кавалкі і прапусціць праз мясарубку. Выціснуць сок. На 2 шклянкі соку дадаць 3/4 шклянкі цукру ці мёду. Мяшаць, пакуль не растопіцца. Сок гэты можна захоўваць у халадзільніку на працягу 3-5 дзён. Піць 3 разы ў дзень па 1 лыжцы і паступова павялічваць дозу да 3 лыжак 3 разы ў дзень. Праз два тыдні паступова змяншаць дозу. Гэта месячнае лячэнне на вясну, якое агульна ўзмацняе арганізм і рэгулюе функцыянаванне страўніка, печані і жоўцевага пузыра.

Сок такі можна атрымаць таксама іншым спосабам. Перасыпаюць цукрам у слоіку кавалкі чорнай рэдзькі і пакідаюць яе ў хатняй тэмпературы на працягу некалькіх дзён.

*„Raphacholin"*, дражэ, якое з'яўляецца экстрактам з чорнай рэдзькі з дадаткамі, прымаюць 1-2 штукі 3 разы ў дзень пры хваробах печані і жоўцевых шляхоў, а таксама страўніка. Вельмі прыдатнае пасля свят!

*„Raphalamid"* можна прымяняць таксама, як і папярэдні прэпарат.

**ЭСКУЛАП**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | |
|---|---|
| 4122. Міхал Голуб (Гайнаўка) | - 100.000 зл. |
| 4123. Міхал Дулько (Белавежа) | - 70.000 зл. |
| 4124. Ахвяраванні са скарбонкі ў Музеі | - 872.500 зл. |
| 4125. Жыхары вёскі Стары Корнін | - 467.500 зл. |
| 4126. Працаўнікі Падставовай школы ў Старым Корніне | - 85.000 зл. |
| 4127. Жыхары вёскі Ягаднікі | - 190.800 зл. |
| 4128. Жыхары вёскі Карыцкі | - 199.300 зл. |
| 4129. Ніна і Інакенцій Сідарукі (Гайнаўка) | - 100.000 зл. |
| 4130. Мар'я Кажура са ЗША | - 50 ам. долараў |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ВЕЛІКОДНАЯ ВІРАВАНКА




*Усе чатырохлітарныя словы трэба ўпісаць вакол чарговых нумароў управа, пачынаючы з пазначанай клетачкі. Літары з аднакападобных клетачак утвораць пажаданне для Вас.*

1. Узор створаны спляценнем (лісцевае дрэва з мяккім канцом). 2. Дзікая, драпежная жывёла. 3. Кошт тавару. 4. Баран у "дзяцінстве". 5. Тне, рэжа, сячэ. 6. Роўны паралелаграм. 7. Сімвал Вялікадня. 8. Беларускі бел-чырвона-белы. 9. З хобатам. 10. Горад у Беларусі. 11. Галоўная думка. 12. Паездка па маршруце. 13. "Вусы" злакаў. 14. Частка тэрыторыі. 15. Ступень адрознення, чын, званне. 16. Ніва, але не газета. 17. Царква. 18. Велікодная прыправа. 19. Футбольны клуб з Мадрыда. 20. Скандынаўская сталіца. 21. 100 г (сена або саломы). 22. Прыправа да стравы ў выглядзе падліўкі. 23. Дыхае жабрамі і мае плаўнікі. 24. Меле. 25 Раўнамерны ход. 26. Пчаліны выраб. 27. Агароджа. 28. Звязаны пярэвяслам. 29. Школьнае падраздзяленне. 30. Спрытны, бойкі чалавек. 31. Спартыўнае судна. 32. Будзе за тры месяцы.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 9 н-ра: Управа:** ячэня, эксцэсы, Эверэст, яднанне, эротыка, эрзац. **Улева:** ячэйка, юнацтва, эстрада, эскадра, энатэра, экран.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

**ПАПРАЎКА:** У крыжаванцы, змешчанай у 14 н-ры не хапіла аднаго акрэслення. Пры **27** уніз павінна быць: "там лякарствы". Перапрашаем.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

*Вятры "белавежскія"*

**АЛЕСЬ БОСКІ**

Я сёння, макатранцы, з Богам роўны!
Як падзялю між вас па-боску хлеб і боль,
У аглоблі запрагу знароўленае
Сонца і пакачу ў ба/нда/рскую юдоль.

**P.S.**

Адолець выс і боязь змог:
- Я - ваш бог!

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### ТАЛІСМАН

Чалавека абралі членам суда прысяжных, і ён даслаў даведку ад лекара. У даведцы сцвярджалася, што Чалавек пакутуе на размягчэнне мозга.

- Мы вызваляем гэтага джэнтльмена ад абавязкаў, - сказаў суддзя, вяртаючы даведку. - Ён мае мозг.

### НЕЗАЎВАЖАНЫ ФАКТАР

Мужчына, які меў Сабаку, вельмі дбайна падбіраў яму пару, і ў выніку на свет з'явіліся шчаняты падобныя на анёлаў. Сам жа Мужчына закахаўся ў пакаёўку, ажаніўся з ёй і меў ад яе непрыгожых дурняў.

- О, гора! - усклікнуў ён у глыбокай меланхоліі. - Каб я толькі выбраў сабе жонку з такой жа дбайнасцю, з якой выбраў для свайго Сабакі, дык быў бы цяпер шчаслівым бацькам!

- Не зусім згодны я з табой, - заўважыў Сабака, пачуўшы скаргу. - Вядома, паміж нашымі атожылкамі ёсць розніца. Але я не лічу, што справа толькі ў матках. Бачыш, паміж мной і табой таксама няшмат падабенства.

*З англійскай пераклаў*
*АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ*

## СЕНТЭНЦЫІ

Хочаш цацкі ляпіць сыну,
Адкінь камень, бяры гліну.

* * *

Вяршыня мудрасці -
Жыць доўга ў радасці.

* * *

Карона ў гразі -
Кароль не правіць,
Правяць князі.

* * *

Аб удаве скажа дужа
Магіла мужа.

**БАРЫС РУСКО**



ФАЛЬКЛЮР ПА-СУЧАСНАМУ




## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

### ДЫЯЛОГ

— Ну, цяпер жыць лепш, чым за „камуны"...

— Што ты кажаш?! Людзям працы няма.

— Працы няшмат, але „куранёўка" ёсць. Папрацаваў паўгода, і зноў грошы бяры. Так хутчэй час бяжыць да пенсіі.

### РАЗБУДЗІЛА!

Пасварыліся муж з жонкай. Перасталі размаўляць, час ад часу толькі, у разе неабходнасці, пісалі сабе заўвагі на лістках паперы.

Аднойчы муж напісаў: „Абудзі мяне а пятай раніцы. Я а шостай еду ў камандзіроўку. Гэта вельмі важная справа, не забудзь!"

Прачнуўся а сёмай. Дома нікога не было, жонка пайшла на працу. Глянуў на стол. Там ляжала запіска: „Уставай хутчэй! Ужо пяць. Глядзі, не спазніся на цягнік!"

### ПОМСТА

Пайшоў муж да каханкі. Жонка зведала пра гэта, і рашыла справу закончыць. Калі за мужам зачыніліся дзверы дому суседкі, жанчына кінула паленам у акно і закрычала:

— Ах ты сука валацужная! Адчыняй! Чаго зачынілася з маім мужам?!

Муж, пачуўшы жончын голас, выскачыў цераз акно суседняга пакоя, і пабег па-за клунямі дадому.

Каханка выйшла і запытала:

— Ты чаго ад мяне хочаш? Вокны мае б'еш?! Тут твайго чалавека няма. Ідзі лепш да свае хаты, пільнуй яго сабе дома!

Жанчына пайшла дадому. Муж адчыніў дзверы.

— Не пушчу цябе нанач у хату! Дзе ж ты валочышся? Дома сяджу, а мая баба бегае па вёсцы ды людзям вокны б'е!

### АЙ РАДАСЦЬ!

— Чаго ты смяешся?

— А мяне абакралі!

— Ну і радасць!

— Ага, забралі пусты партфель! Хацеў бы я пабачыць іх міны, калі яго адкрыюць!

**АЎРОРА**

## ХВАРОБА

Нябога і бядак,
Хоць тужыцца штосілы,
Не вылезе ніяк
З запою, як з магілы.

А галава трашчыць, —
Разваліцца на клёпкі.
Патрэбна палячыць,
А там — даволі!
Кропка!

Таварышу кіўне,
Падчэпіць спрытна
Скварку,
І ў рот, як за каўнер,
Агню закіне чарку.

Ды чарачка адна —
Скупая ўсё-ткі мерка!
Яму б кульнуць да дна
Не менш, чым паўлітэрку!

На галаве берэт
Па-заліхвацку ссуне.
Налі яшчэ, буфет, —
Без горкай
Надта сумна!

І варта прыгубіць,
Крыху яшчэ дабавіць,
Гатоў ён посуд біць,
І дужацца з дубамі.

Ступае напавер,
Нібы ў страшэннай зморы.
Яму ужо цяпер
Па забарсні і мора.

А дома храпака,
Як дасць ды як урэжа,
Аж з логава дзіка
Падніме ў Белавежы.

А раніцай, з начы,
Так блага, хоць рукамі
Падсунь ці падтачы
Свой макацёр
Пад камень!

**ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ**



## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! З гэтымі пачуццямі ні паняць, ні разабраць. Вельмі спадабаўся мне адзін хлопец. Былі якраз на забаве. Пайшоў праводзіць мяне. Праз месяц мы ўпершыню адбылі палавыя зносіны. Былі ў сяброўкі. Яна адступіла нам на гэту ноч адзін пакой. Высветлілася, што хлопец яшчэ больш цудоўны, чым на вока. Я закахалася не на жарты.

Было гэта, аднак, неспадзяванае знаёмства. Перад гэтым у мяне было таксама некалькі сімпатый. Праўда, на адным дагэтуль мне не ўдалося затрымацца, але падабаліся многія. Гэты апошні хлопец на нейкі момант засланіў мне ўвесь свет.

Але праз пару месяцаў я ўспомніла пра старых знаёмых. Усё прыядаецца, прыеўся мне і новы хлопец. Праўда, не скажу, што я зусім парвала з ім, але пачала ізноў сустракацца і з іншымі. Было прыемна мець таго, хто падабаўся, — і ўсё.

Мой новы хлопец шалеў з зайздрасці, калі бачыў мяне з кімсьці іншым. Бегаў за мною, сачыў. Мог прыйсці на забаву, выклікаць мяне на двор, а тады вывезці мяне кудысьці маторам. Ну, хоць ты плач! А я ж прыйшла з іншым... Часамі гадзінамі прастойваў пад дзвярыма святліцы, дзе адбывалася забава, а пасля падглядаў, з кім і куды я пайшла. Мяне брала злосць, а хлопец пачынаў падабацца ўсё менш і менш. Ат там! Навошта ён быў мне такі патрэбны, калі кроку без яго не даваў ступіць, крыўдзіўся, амаль плакаў. Мужчына павінен быць мужчынам! Нягледзячы на яго схаваныя „валёры", мне хацелася здабываць новыя вяршыні. Але ж у нашай невялікай мясціне далёка не схаваешся — усе ўсё ведалі, і я доўга не магла скрывацца.

Урэшце хлопец не вытрымаў. Я заўважыла, што неяк зусім адвярнуўся ад мяне, не цікавіўся маімі справамі, не меў часу на сустрэчы са мной. Праз нейкі час я спаткала яго з іншай дзяўчынай з нашай школы. А пасля ўжо бачыла іх штораз у іншых месцах.

Мне стала крыўдна. Як жа гэта ён мог прамяняць мяне на такое абы-што! Я ж падабаюся многім, а яна — каму? Ніхто яе не хацеў, дык і прычапіўся да яе!

Аднаго разу я папрасіла, каб узяў мяне на забаву. Мушу табе сказаць, Сэрцайка, што ён мне канкрэтна ніколі не сказаў, быццам кахае іншую дзяўчыну. Гаварыў, што гэта проста сяброўка, але я ведала, што гэта за „сяброўства", бо ведала яго сексуальную патэнцыю. Доўга я чакала, хлопец не прыходзіў. Спачатку я не танцавала, адмаўляючы ўсім, і падпірала сцяну. А пасля, разбітая і знерваваная, пачала гуляць з адным са старых знаёмых, з якім я ў апошні час крыху сустракалася.

Ён абцалоўваў мяне, туліўся. Трэба сказаць, што сапраўды ўмеў гэта рабіць. І вельмі ён мне таксама імпанаваў, ды здаўна. А пераспалася я з ім ужо пасля таго, як мне абрыд той апошні хлопец. Уяві сабе, Сэрцайка, што ніякага ўражання яго пяшчоты на мяне не рабілі. Мяне выразна яны сёння не бавілі, а нават раздражнялі на свой спосаб. Танцуючы, я не глядзела на партнёра, а некуды ўдалечыню. Усё яшчэ чакала, што той валацуга прыйдзе. Але ён не прыйшоў. Мне было вельмі маркотна.

Дарагое Сэрцайка, скажы, чаму ў жыцці так бывае, што калі нешта маеш, дык недаацэньваеш яго, а калі траціш, дык у сэрцы нешта пішчыць і ные?!

**Анюта**

Анюта! А гэта ўжо прыдумалі не мы, а значна раней за нас: цэніш толькі тое, што страціш. Пакуль хлопец быў зайздросны, бегаў за табою, не даваў сустракацца з іншымі, ён табе быў амаль абыякавы. Прынамсі ты лічыла, што ён не мае манаполіі на каханне з табою. Табе здавалася, што ты можаш гуляць з кожным, а ён мае цярпліва толькі чакаць, калі ў цябе будзе настрой сустрэцца з ім. Калі ж ён зацікавіўся іншай, табе пачало карцець, чаму гэта ён сустракаецца з „абы-кім". Абы-хто — гэта паняцце вельмі адноснае. Для здраджанай дзяўчыны кожная саперніца — абы-хто.

**СЭРЦАЙКА**